«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 (191), ліпень 2022 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 7 (191) (ліпень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

kamunikat.org
novychas.online
facebook.com/litaraturnaja.belarus

## Змест





**ДЫЯЛОГІ**

# Васіль БЫКАЎ: «Мы — апошнія. Наша чарга…»

**«Літаратурная Беларусь» завяршае публікацыю цыкла гутарак Юрася ЗАЛОСКІ з Народным пісьменнікам Беларусі Васілём БЫКАВЫМ, — на гэты раз размова пра набліжэнне да суверэннасці і непазбежныя на тым шляху выпрабаванні, шанец незалежнай адбудовы краіны, імітацыю дэмакратызацыі, недастатковы ўзровень нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства, страх як сродак самазахавання, падкаланіяльнае існаванне беларускай культуры і надзею на Адраджэнне.**

***— Васіль Уладзіміравіч, прамінуў год ад нашае гутаркі ў лютым 1992 года. Тады мы спрабавалі знайсці «аптымістычны зыход» у развіцці беларускага грамадства, што неспадзявана апынулася ў варунках незалежнасці… Вынікі пошуку аказаліся пераважна песімістычнымі. Як бы вы сёння, калі абстрагавацца ад «агульнага песімізму», што абумоўлены эканамічным крызісам і да т. п., ацанілі грамадскую вартасць пражытых Беларуссю паўтара года: гэта было сапраўднае набліжэнне да суверэннасці, з непазбежнымі на тым шляху выпрабаваннямі, ці, па большасці, — «гульня ў словы» на фоне выпрабаванняў?***

— Як паказаў час, гэта была чысцейшай вады імітацыя, палітычны фарс, якія ні на крок не наблізілі дзяржаву да суверэннасці. Мабыць, для таго набліжэння патрэбны тытанічныя высілкі грамадства, а найперш ягоных дзяржаўных структураў, дзейнасць якіх на справе патанула ў бюракратычнай стыхіі слоў, спрэчак, пустых непатрэбных законаў, якія ніхто і не думае ператвараць у жыццё.

Быў страчаны час. Наша кіруючая наменклатура на шмат месяцаў затаілася ў чаканні — спярша восені і расейскага з'езда народных дэпутатаў, які меўся рэанімаваць імперыю, пасля — вырашэння найважнейшага для яе пытання аб КПБ. Першая яе доўгачаканка мала што вырашыла, затое другая вызначыла ўсе. Далей можна было не спяшацца: элементарная логіка падзей, атрымаўшы такі значны палітычны імпульс, сама па сабе здольна прывесці да мэты. Тым болей што дарожка знаёмая, добра пратаптаная за семдзесят гадоў камуністычнага панавання, і вяртацца па ёй на ўлюбеныя камуністычныя абсягі — адно задавальненне.

Для партыйцаў, наменклатуры, ды і для людзей, згаладнелых без таннай каўбасы і напалоханых «жахлівым» беларускамоўем.

***— Паколькі ў нас дыялог, дык дазволю сабе выказаць пэўную «версію» і, адпаведна, пачуць ваша меркаванне. Мне здаецца, г. зв. гарбачоўская «перабудова», што неспадзявана адышла ў гісторыю, па сутнасці давала нацыянальным ускрайкам СССР, самой Расіі рэдкі, унікальны шанец самастойнага наладжвання дэмакратычнага працэсу, дэкамунізацыі рэспублік. Шанец — пэўным палітычным сілам у рэгіёнах, прычым шанец, які трэба было скарыстоўваць не марудзячы. Амаль паўсюдна так і адбылося: у Прыбалтыцы, ва Украіне, у Расіі (безумоўна, кожны выпадак вымагае агаворак, але справа ў сутнасці). Беларусь жа толькі марудна паўтарала працэсы, што адбываліся ў суседзяў, каб, пэўна, не апынуцца спаміж іх гэткім палітычным рэтраградам (агаворымся, што апазіцыйны рух БНФ нічым не саступаў подобным рухам у бліжнім замежжы, хіба толькі тым, што не прыйшоў да ўлады). Цяпер, калі адпала неабходнасць імітаваць дэмакратызацыю, палітычная сістэма ў Беларусі, на мой погляд, як бы замкнулася «на сябе», амаль тоесна аднавіўшы тую мадэль кіравання грамадствам, якая існавала да «перабудовы». Чаму, на вашу думку, камуністычная традыцыя так трывала — як нідзе, бадай, на абшарах былога СССР — усталявалася менавіта ў Беларусі, захаваўшы выключную здольнасць да самаўзнаўлення?***

— Тут уся справа ў недастатковым узроўні нацыянальнай самасвядомасці беларускага грамадства. У той час, як у іншых рэспубліках былога СССР галоўнай палітычнай сілай у справе самавызначэння выступілі найперш нацыянальныя сілы, у Беларусі такія сілы з'явіліся запознена, ужо ў ходзе суверэнізацыі, да якой, па сутнасці, яны не былі гатовы. У нас адсутнічаў нацыянальнасведамы авангард. БНФ утварыўся толькі ў канцы 1988 года, і наменклатура адразу ўцягнула яго ў дробязныя сваркі наконт ягоных жа мэтаў, палітычнага і асабістага іміджу лідэраў, усяляк іх дыскрэдытуючы.



Фота з архіва аўтара

Шмат часу таксама адабрала бясплённая дыскусія аб мове. Яшчэ і дагэтуль нацыянальная дэмакратыя траціць пэўныя высілкі на доказ аксіяматычных рэчаў накшталт важнасці мовы ў нацыянальнай дзяржаве і шкодзе дзяржаўнага двухмоўя.

Герб і сцяг краіны былі неяк прыняты, але цяпер грамадства рызыкуе быць уцягненым у дыскусію аб неабходнасці новага гімна…

Ствараецца ўражанне, што антыдэмакратычныя сілы сістэматычна выкідваюць адмысловыя чырвоныя шматкі, каб махаць імі перад нацыянальнай свядомасцю беларусаў, у той час як самі за палітычнымі кулісамі распрацоўваюць дэталёвыя сцэнарыі накшталт рэанімацыі КПБ, што адбываецца раптам і з поўным поспехам…

Беларусь была і застаецца камуністычным фарпостам на заходніх рубяжах расейскай імперыі, і ў тым яе гістарычнае няшчасце.

***— Незваротнасць дэкамунізацыі любой краіны залежыць, пэўна, перш за ўсё ад стану духу, пазіцыі інтэлігенцыі (творчай эліты, скажам так на заходні капыл). У свой час, увосень 1989 года, мяне ўразіла борздкасць дэмакратычнага шэсця па краінах Усходняй Еўропы, узнясенне Вацлава Гавэла ў Чэхаславаччыне, хуткае ўз'яднанне Германіі…***

***Акрамя складаных паліталагічных вызначэнняў тых падзей іх можна вызначыць і проста — як вяртанне грамадства да здаровага сэнсу і элементарнай справядлівасці. Спрыяла таму воля — палітычная і духоўная воля найперш — інтэлігенцыі тых краін.***

***Вопыт дэкамунізацыі краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы засведчыў, бадай, ролю самой нацыянальнай інтэлігенцыі ў гэтым працэсе — як ролю ініцыятара і рухальніка пераўтварэнняў, за якім ідзе, да якога прыслухоўваецца, з каго бярэ прыклад астатняя частка жыхарства. Зусім не хацеў бы сцвердзіць, што беларуская інтэлігенцыя якаясьці «непаўнавартасная». Наадварот, мне здаецца, што нават тымі сіламі нацыянальнай інтэлігенцыі, якія меліся, калі б яны ў свой час і заўсёдна падтрымалі справу Беларускага Народнага Фронту, — можна было дамагчыся шмат болей ва ўсталяванні дэмакратычнай дзяржаўнасці і нацыянальнай волі ў сферы культуры. Аднак жа чаму, на вашу думку, належнай падтрымкі краёвай інтэлігенцыі БНФ не атрымаў?***

— Уся справа ў тым, што ў таталітарным грамадстве не можа быць не толькі дэмакратычнай, але і колькі-небудзь незалежнай інтэлігенцыі (вядома, у яе агульнапрынятым разуменні). Частка грамадства, якая здабывала свой хлеб не фізічнай, а разумовай ці творчай працай, была цалкам на дзяржаўным утрыманні: пісьменнікі — праз спрэс дзяржаўныя выдавецтвы і выданні, мастакі — сістэму закупу дзяржавай іх твораў; вучоныя ды інжынерна-тэхнічныя кадры, акадэмічныя інстытуты — былі спрэс ангажаваны ВПК, дзе працавалі на ўзбраенне ці на ідэалагічнае забеспячэнне таталітарызму. Усе разам былі з'яднаны ўніверсальнай камуністычнай ідэалогіяй праз членства ў КПСС і яе разгалінаваныя структуры. У гэтай сістэме ім жылося няблага, трэба было толькі заплюшчыць вочы на жыццё народа ды паслухмяна выконваць волю любімай партыі.

Заканчэнне на стар. 2 »

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 7 (191), ліпень 2022 года

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

# Васіль БЫКАЎ: «Мы — апошнія. Наша чарга...»

Для яшчэ болей татальнага ахопу існавала сістэма карных органаў, калі вялізная частка інтэлігенцыі (таксама як рабочага класа, сялянства) надзейна трапіла ў іхнія картатэкі ў якасці «добраахвотных памочнікаў». Вядома, не ўсе тыя «памочнікі» займаліся даносамі і правакацыямі, мабыць, былі і тыя, хто не любіў сваю «добраахвотную» справу. Але ўжо ў сілу свайго далучэння да самага сакрэтнага, страшнага і таемнага яны былі надзейна пазбаўлены грамадзянскай волі і ні да якога БНФ далучыцца не маглі і марыць.

Адбываўся дзівосны па сваёй фантастычнасці працэс ператварэння грамадзян у камуністычных зомбі, які ў адносінах да нацыянальнай інтэлігенцыі шмат у чым скончыўся паспяхова. Страх як сродак не толькі самазахавання, але і пэўнага дабрабыту вызначыў поўны сервілізм гэтае часткі нацыі, надзейнае служкі таталітарнага рэжыму.

***— Але ў нашай савецкай краіне, здаецца, прайшла перабудова, пэўны час усталёўваліся галоснасць і плюралізм (хай і «зверху»), што даволі прачысцілі «кароткакурсавыя» мазгі ўсяго грамадства, а тым болей інтэлігенцыі. Апроч таго, ці не пяты год (ад тае восені 1988-га) гаворым пра Адраджэнне, і гаворым вельмі нават патрыятычныя, узнёслыя рэчы...***

***Няўжо ўсё гэта, у сукупнасці ўзятае, ані не магло змяніць сервілісцкае псіхалогіі інтэлігенцыі, не паспрыяе выпрацоўцы яе незалежнай, дэмакратычнай пазіцыі цяпер?***

— Цяпер, ва ўмовах камуністычнай рэстаўрацыі, я думаю, яшчэ болей абсурдна чакаць дэмакратычнай або нацыянальнай актывізацыі беларускай інтэлігенцыі. Найболей таленавітая і сумленная яе частка апынецца ў стане бязвер'я, зойме зручную пазіцыю маўклівай «унутранай эміграцыі», другая ж, што мае нязначныя творчыя здольнасці або толькі імітуе іх, з радасцю кінецца ў абдымкі да КПБ. Тым болей, што гэта апошняя вяртаецца з вымушаных вакацый, набраўшыся новае моцы і з заўжды ўласцівай ёй дзелавітасцю. Напэўна ж, яшчэ ў яе нямала прыхаваных у свой час грашовых сродкаў, якімі яна неяк падзеліцца і са сваімі добраахвотнымі памагатымі...

***— У сваіх развагах, бачу, вы схіляецеся да выказанай раней думкі наконт патрэбы змены пакаленняў — каб пазбавіцца камуністычнай ментальнасці. Шлях з камунізму, відаць, ідзе нейкімі этапамі; час ад часу з'яўляюцца людзі, што ўзыходзяць на грамадскую трыбуну ды імкнуцца хоць трошкі пасунуць наперад свядомасць сучаснікаў. Досыць эфектыўную ролю ў справе разавага «ачалавечання» савецкай сістэмы адыграла пакаленне шасцідзясятнікаў, праз якое цяперашнія палітыкі пераступаюць...***

***Вам, Васіль Уладзіміравіч, бачацца людзі, наступнікі шасцідзясятнікаў, хто ў межах нацыянальных дзяржаў можа ў бліжэйшым часе адыграць падобную «гуманізатарскую» ролю?***




— На маю думку, нявартa асабліва дакараць шасцідзясятнікаў, як гэта робяць некаторыя маскоўскія дэмакраты. Усё ж менавіта шасцідзясятнікі ў цяжкіх варунках таталітарнай сістэмы неяк ураталі гонар найперш расейскай дэмакратыі. Цяпер, як вядома, тая дэмакратыя трапіла ў жахлівую крызу, апынулася на мяжы магчымасцяў уласнага існавання, і невядома, ці ўратуе ад дыскрэдытацыі ўласныя ідэі.

Але ўсё ж у гісторыі дэмакратычнага руху застануцца светлыя імёны яе рыцараў, людзей перадавой гуманістычнай думкі, такіх, як Ю. Афанасьеў, А. Бонэр, Ю. Каракін, наш зямляк А. Адамовіч ды некаторыя іншыя. Шкада, іх мала, але, трэба спадзявацца, некалі будзе болей. У тым ліку і ў Беларусі.

***— Відаць, акрамя палітычных, ёсць і аб'ектыўныя, абумоўленыя станам і развіццём культуры прычыны нямавасці адраджэнскага руху беларусаў. Бадай, галоўная з іх — падкаланіяльнае існаванне беларускай культуры ў XX стагоддзі, існаванне пад культураю расейскай.***

***Вы неяк заўважылі, што за савецкі час некалькі пакаленняў беларусаў прайшло міма сапраўднай нацыянальнай культуры, ці не большасць здабыткаў якой засталося ў мінулым, было вынесена за межы культурнага жыцця грамадства. Такім чынам, выраслі пакаленні людзей, што навучыліся існаваць па-за культурай. Адраджэнне ж — не што іншае, як вяртанне да культуры.***

***Як вы лічыце, развяжаючы над прычынамі цяжкасцяў гэтага руху, ці не задужа беларускія рупліўцы ігнаруюць аб'ектыўны характар перашкодаў на іх шляху? Аб'ектыўныя — г. зн. не залежны ад волі, маралі і зла, ці дабранамераў паасобных людзей альбо суполак...***

— Так, шмат якія пакаленні беларусаў выхоўваліся ў сферы расейскай культуры, што, як і кожная нацыянальная культура, вядома, мае свае значныя і нават вялікія здабыткі. Увогуле, гэта было б і няблага, асабліва калі ўлічыць, што ў тых умовах менавіта праз расейскую мову і культуру ў значнай меры ішло далучэнне беларусаў да здабыткаў сусветнай культуры. Але тут ёсць і пэўная нелагічнасць: з таго працэсу была найперш выключана свая, нацыянальная культура, якой належала стаць грунтам, падмуркам усяго грамадскага працэсу — як і ў кожным цывілізаваным грамадстве.

Нармальны працэс культурнага развіцця павінен быў выглядаць так: спярша ў самым поўным аб'ёме — уласная культура, затым іншыя — расейская, нямецкая, польская, ангельская, — чым болей, тым лепш, наколькі хапае да таго здольнасцяў грамадства ці асобнага яго члена.

Таго, аднак, не адбылося. Або адбылося зусім інакш: аднабакова, ненармальна, што садзейнічала ўтварэнню асаблівага, мутантнага генатыпу, маргінальнага ў культурных адносінах, нездольнага да ўспрыняцця сучаснай гуманістычнай культуры наогул.

Нашы палітычныя партыі (найперш, вядома, БНФ) з самага пачатку свае дзейнасці паставілі задачу культурнага адраджэння нацыі. Вядома, задачу высакародную, але і надта праблематычную ўжо хоць бы з тае прычыны, што ажыццяўлялася яна не на зусім прыдатным для таго матэрыяле. Не падмацаваная нацыянальнай самасвядомасцю народа, яна ўжо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць. Відавочна, палітычныя прыярытэты некаторых дэмакратычных партый былі вызначаны неабачліва, а сілы для іх ажыццяўлення аказаліся абмежаванымі.

Зноў жа, відаць, не была ўлічана мера супраціву антынацыянальных сілаў, іх шматгадовая спрактыкаванасць у барацьбе з нацыянальным. Так, каб перамагчы ў вялікім, яны пайшлі на ўступкі ў меншым, дазволіўшы прыняць хоць бы рэлятывісцкі закон аб мовах, добра ведаючы, што выконвацца ён не будзе.

Цяпер яны навязваюць нацыі абсурдную дыскусію аб двухмоўі. Вядома, у аснове таго абсурду ляжыць пэўны разлік. Нацыянальнасведамая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык: Тарашкевічавай і наркамаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расейскае аднамоўе.

Прапагандысцкім прыкрыццём тае акцыі займаюцца сацыялагічныя інстытуты і агенцтвы, што сядзяць на ўтрыманні ўрада і ў любы момант з высмактанымі з пальцаў лічбамі могуць даказаць, што беларусы — супраць беларускай мовы, а КПБ — самая папулярная сярод іх партыя...

***— Хуткасць і, я б сказаў, татальнасць камуністычнай рэстаўрацыі могуць сведчыць толькі пра адно: што пяць гадоў, патрачаных на перабудову, спробы эканамічных і палітычных рэформ не змянілі духу дзяржавы. Мадэль кіравання дзяржавай застаецца ранейшай, этакратычнай, дух дзяржавы — камуністычным.***

***Але наперадзе ў Беларусі новыя выбары ў парламент і выбары прэзідэнта. Якой, на вашу думку, павінна быць палітычная тактыка нацыянальна-дэмакратычных сілаў на бліжэйшую перспектыву, каб — ва ўмовах апатыі грамадства — утрымаць ужо здабытыя пазіцыі?***

— Тактыка можа быць толькі адна: аб'яднанне ўсіх дэмакратычных сілаў у адзіны блок. Бо антыдэмакратычныя сілы — КПБ, ПКБ, іншыя групоўкі, што да іх прымыкаюць, — актыўна гуртуюцца. Гэта вымагае эфектыўнага працідзеяння з боку сілаў дэмакратычных[1].

***— Развяжаючы над вашай творчасцю, прыходзіш да думкі, што аўтар твора, у якім вымаляваны псіхалагічныя тыпы беларусаў XX стагоддзя — Пятрок і Сцепаніда са «Знака бяды», — павінен пайсці рэтраспектыўным шляхам, у даўнейшую гісторыю, з якое вырастаюць гэтыя тыпы. Нешта ж павінна было так абязволіць беларускіх мужчын, зламаць іх волю да змагання за вольнае жыццё і, адпаведна, знешчасліваць жанчын, чыя доля пад чужынцамі была асабліва гаротнай...***

***Ваш мастакоўскі «магістрал», Васіль Уладзіміравіч, ці не скіроўваецца туды, у гісторыю сярэднявечча?***

— На жаль ці на шчасце, я не планую сваёй творчасці, якая ў мяне ма́е хутчэй імпульсіўны характар. Усё ж гісторыя — не мая парафія, тут я не валодаю патрэбнымі сродкамі і таму не бяруся за справу, у якой не ўпэўнены.

***— У першым нумары часопіса «Полымя» за гэты год чытач пазнаёміўся з вашай новай ваеннай аповесцю «Сцюжа», пад якой пазначаны даты «1969; 1991». Ці азначае гэта, што пісьменнік яшчэ мае рахунак з вайной і не да канца яго сплаціў?***

— А гэта вельмі проста. «Сцюжу» я пачаў менавіта ў 1969 годзе, дапісаў да паловы і кінуў, зразумеўшы, што надрукаваць яе будзе немагчыма. А калі і надрукуеш, дык не парадуешся. Дапісаў яе ў 1991 годзе.

***— Паколькі гутарым мы ў час падрыхтоўкі святкавання ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, у якой вы ўдзельнічаеце як сябра аргкамітэта святкавання. На вашу думку, наколькі істотна на палітычную свядомасць беларусаў можа паўплываць гэтая дата — па сутнасці, эпізод у віры падзей 1917–1921 гадоў?***

— Так, гэта эпізод у нашай гісторыі, але эпізод вельмі важны. Можа, без таго эпізоду не было б і падзеі 1991 года, не ўваскрэсла б сама надзея на якую-небудзь дзяржаўнасць. Абвяшчэнне БНР у 1918 годзе само па сабе было актам болей сімвалічным, бо за ім не паследавала якіх-небудзь грамадскіх пераўтварэнняў. Але гэты акт увасобіў у сабе нацыянальна-дэмакратычны патэнцыял беларусаў, рэанімаваў важнейшую ідэю і заклаў падмурак.

Нягледзячы на пэўныя няўдачы ў будучым, ідэя жыла, а значыць, была жывая і надзея на яе адраджэнне. Яна жыве і цяпер, даючы моцы новым пакаленням беларусаў стрываць усё і дамагчыся жаданага. Таго, чаго ўжо дамагліся ўсе народы Еўропы. Мы — апошнія. Наша чарга...




Помнік Васілю Быкаву ва Ушачах

*1993*

---

[1] Далейшыя падзеі цалкам пацвердзілі слушнасць меркавання В. Быкава. На жаль, улетку 1994 года, падчас кампаніі па выбарах прэзідэнта, дэмакратычныя сілы не здолелі аб'яднацца ў адзіны блок, у выніку чаго шансы на перамогу двух дэмакратычных кандыдатаў — З. Пазьняка і С. Шушкевіча — аказаліся значна зменшанымі. — *Ю. З.*

# Віктар Вальтар, роджаны пад Сатурнам

## 120 гадоў з дня нараджэння

Алесь ПАШКЕВІЧ

Яго прозвішча ў беларускага чытача можа пакуль асацыявацца найперш ці з маркай пісталета нямецкай вытворчасці, ці — у лепшым выпадку — з імем англійскага раманіста-гісторыка Скота, або з творцам-асветнікам Вальтэрам. Аднак яшчэ на пачатку ХХ стагоддзя такое прозвішча мелі шматлікія сем'і латгальскіх беларусаў Дзвіншчыны, у 20-х гадах з волі неспрыяльных палітычных абставінаў адмежаваныя ад Беларусі-метраполіі.

У адной з такіх сем'яў 15 ліпеня (яшчэ «старога» стылю) 1902 года ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс) і нарадзіўся Віктар Вальтар — і займеў скрушны лёс мастака-сухотніка, а калі спатрэбіўся псеўданім, згадаў не менш трагічнае для Беларусі — Янка Палын.

Першая сусветная вайна зрабіла сям'ю Вальтараў бежанцамі. Віктар вучыўся ў Харкаўскім рэальным вучылішчы, затым, па вяртанні ў 1921 годзе на Радзіму, — у рускай гімназіі, Беларускіх дзяржаўных аднагадовых настаўніцкіх курсах. З падтрымкі беларускай дыяспары (найперш Кастуся Езавітава і Сяргея Сахарава) стаў стыпендыятам чэшскага ўрада і трапіў у Прагу, паступіў на каморніцкі факультэт Чэшскага вышэйшага тэхнікума ды ўліўся ў беларускую эміграцкую суполку.

Праз тры гады, не закончыўшы вучобу, В. Вальтар, хворы на сухоты, едзе ў Дзвінск — вяртаецца, як і У. Жылка, паміраць на Радзіму. Апантана настаўнічае ў беларускіх школах Латвіі, выкладае беларускую мову.

Па сведчанні Сяргея Панізніка, захавальніка спадчыны В. Вальтара, беларускі настаўнік з Даўгапілса Аляксей Барткевіч у прадмове да апавядання В. Вальтара «Леснікова сена», якое было выдадзена ў Рызе «Беларускім выдавецтвам у Латвіі» ў 1932 годзе, успамінаў: «У 1931 годзе 20 сакавіка ён [В. Вальтар] захварэў на запаленне нырак. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён не кідаў працы ў школе. У працягу трох дзён не мог зняць боты, бо распухлі ногі, аднак у школу хадзіць ён не кінуў, і толькі 2 красавіка адважыўся выехаць са школы ў Дзвінск, дзе зараз жа адвезлі яго ў бальніцу Чырвонага Крыжа».

Пісьменнік памёр 4 красавіка 1931 года і быў пахаваны ў Дзвінску на каталіцкіх могілках. У апошні шлях яго праводзілі родныя, настаўнікі і вучні беларускай гімназіі. Ксёндз прысутнічаць на пахаванні адмовіўся, бо нябожчык не хадзіў да споведзі…

Дэбютаваў Віктар Вальтар літаратурным нарысам «Аднабочнікі», які пад псеўданімам Янка Палын быў надрукаваны ў ковенскім часопісе «Крывіч» (№ 4, 5). У 1924-м пражская «Студэнцкая думка» апублікавала яго абразок «Песня гладыятараў».




В. Вальтар быў аўтарам газеты «Голас Беларуса», якую рэдагаваў К. Езавітаў, друкаваў на яе старонках свае вершы. Ён — адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Першы крок» (Рыга, 1926). Яго вершы ў той час друкавалі «Замежная Беларусь» (1926) і «Родныя гоні» (1926, №5), а таксама «Наша Доля» і «Новы Шлях». У 1930 годзе № 4 «Нашай Долі» апублікаваў апавяданне В. Вальтара «З-за сена», пад назвай «Леснікова сена» ў 1932-м яно выйшла ў Рызе асобнай кнігай, выйшла, калі аўтара ўжо не было ў жывых…

Самы значны літаратурны твор В. Вальтара — раман «Роджаныя пад Сатурнам». Ён быў напісаны яшчэ напрыканцы 20-х гадоў, аднак упершыню апублікаваны — фрагменты — толькі больш чым праз шэсцьдзясят гадоў пасля таго — у газеце «Голас Радзімы» (1991—1992). У 2009 годзе «Кнігазбор» у выдавецкай серыі «Бібліятэчка альманаха "Куфэрак" Вілейшчыны» апублікаваў асобны том выбраных твораў пісьменніка, дзе раман апублікаваны цалкам.

«Роджаныя пад Сатурнам» В. Вальтара на пачатку 30-х гадоў быў перапісаны вучнямі Дзвінскай беларускай гімназіі і разасланы ў галоўныя бібліятэкі. Адзін асобнік патрапіў у Вільню, адкуль мікрафільм рукапісу замовіў Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны (цяпер мікрафільм захоўваецца ў Навуковай бібліятэцы НАН Беларусі).

Раман В. Вальтара — аўтабіяграфічны. Аднак аўтабіяграфічнасць «Роджаных пад Сатурнам» — асобнага кшталту, аўтабіяграфічнасць мастацкая, узроўню прататыпнага, калі аўтар, надзяляючы свайго галоўнага героя — Пётра Тугоўскага — асноўнымі рысамі свайго характару і праводзячы яго шляхамі свайго лёсу, усё ж стварае постаць сімвалічную, тыповую. У пааасобных сюжэтных хадах П. Тугоўскі, верагодна, станавіўся і мройным падвойнікам аўтара, увасабленнем некаторых аўтарскіх няздзейсненых у рэальнасці учынкаў (так, В. Вальтар, у адрозненне ад галоўнага героя «Роджаных пад Сатурнам», не стаў партызанам).

Твор В. Вальтара адметны і тым, што цалкам прысвечаны асвятленню эміграцкага жыцця і яго праблем. Гэта твор пра людзей, якія «былі выкінуты за борт жыцця пасьля вялікага рэвалюцыйнага землятрусу», «якія згубілі «ўсё» і сталі «нічым» — людзкім пылам, гноем, заплямованыя ганебным словам «эмігрант».

Беларуская эміграцыя ў Чэхіі перыяду паміж дзвюма сусветнымі войнамі — багатая старонка нацыянальнага культурнага і дзяржаўнага развіцця. У Празе займеў прытулак урад БНР, ствараліся беларускія асветна-культурныя арганізацыі, жылі — вучыліся, пісалі і працавалі — маладыя літаратары, навукоўцы і палітыкі (У. Жылка, Я. Станкевіч, Т. Грыб і інш.). Два апошнія з названых сталі асноўнымі героямі рамана В. Вальтара. Вымалёўка іх характараў — суб'ектыўная, суб'ектыўнае і бачанне значнасці іхняй дзейнасці, якая ўрэшце прывяла да падзелу «Беларускай Грамады ў Празе» на дзве групы: «нацыяналістага» Я. Станкевіча і «сацыялістага» Т. Грыба. Кантрастна, хоць і пункцірна, В. Вальтар выпісвае характары Пётры Крэчэўскага, колішняга старшыні Народнай Рады БНР, Міколы Вяршыніна, дыпламатычнага прадстаўніка БНР у Празе, прафесара Яўгена Ляцкага і іншых вядомых беларускіх дзеячоў эміграцыі.

Аднак раман Вальтара «Роджаныя пад Сатурнам» не стаў простым мемуарным ці дзённікавым пераказам жыцця беларускай эміграцыі ў Празе 20-х гадоў, не стаў адно яго простым падзейным узнаўленнем. «Роджаныя пад Сатурнам» — не толькі пабытавая біяграфія беларуса, але і біяграфія душэўная, бо ў рамане не менш скрупулёзна апісваецца і гама пачуццяў, настрояў, перажыванняў галоўнага героя — Пятра Тугоўскага. Ён бачыцца сімвалічным і тыповым вобразам, у якім увасабляліся вобразы дзясяткаў беларускіх студэнтаў-эмігрантаў, якія ў скрутны час для сваёй Бацькаўшчыны ахвяроўвалі ёй свае жыцці. Паказальнае і прозвішча галоўнага героя В. Вальтара — у якім ужо ў першых літарах гучала «туга», настройваючы на трагічнае і бязрадаснае ў яго лёсе.

Аўтар падае майстэрскае, не без іроніі, апісанне знешняга выгляду Тугоўскага: «Прырода ня доўга думала над яго партрэтам і фігурай, ён быў высечаны грубым майстрам: нейкі квадратны твар з кантаватым падбародкам, зроблены быццам з простага камня <…> І ўсё ж ткі гэта не перашкаджала яму лічыць сябе ня горш за тых, у каго была бліскучая вонкавасць <…>, — але яны рвалі кветкі ў садзе жыцця…».

Услед за аўтарам яго асноўнымі жыццёвымі сцяжынамі праходзіць і Тугоўскі: беднае маленства — вайна — паязджанства ў Харкаў — рэвалюцыя, падчас якой давялося ўбачыць і бальшавіцкія злачынствы, і помсту «буржуазіі» — беларуская гімназія на Бацькаўшчыне — пражскае жыццё.

Сюжэт «Роджаных пад Сатурнам» грунтуецца на класічным фабульным «трохкутніку»: Тугоўскі — Галена Вярхоўская — Ян Загорскі. У рамане асноўныя персанажы раскрываюцца праз свой душэўны свет, праз сваю закаханасць. Твор В. Вальтара адрозны тым, што гэта найперш мастацкая біяграфія душэўнага станаўлення герояў, а не падзейны летапіс. Якраз у абмалёўцы ўнутранага стану Тугоўскага В. Вальтар дасягае значных поспехаў. Толькі адзін з прыкладаў: «Дзіўная марозная ноч агарнула Тугоўскага. Сьнег скрыпеў пад яго нагамі і больш, чым калі-небудзь, пераліваўся сваімі дзіўнымі пэрламі: зоры шапталіся ў небе. Вялікае места спала, зачараванае сном. А ён ішоў. Ішоў адзін, як воўк, вялікай і пустыннай дарогай, і яму заставалася толькі завыць… Завыць, як воўк. Ён прыйдзе ў сваю інтэрнацкую кануру, адзінокі, не абласканы, не абагрэты. Ён акіне вокам свой кут і не знойдзе там нічога, што б сьведчыла аб прысутнасьці любімай рукі. Ні адной кветкі, ні адной прыметы. Пуста… <…> Так заўсёды. Ён ідзе па жыцьці ўсё тэй самай пустыннай дарогай, як воўк».

Аўтар скрупулёзна апісвае ўсе супярэчнасці характару галоўнага героя, стварае вобраз, які сваёй псіхалогіяй, ментальнасцю высвечвае-паўтарае некаторыя тыповыя — не заўсёды лепшыя — рысы характару маладога беларуса, якія, безумоўна, інтэгруюцца ў абагулены нацыянальны вобраз-канцэпт. Найбольш відочныя рысы характару Тугоўскага — няўпэўненасць, хісткасць, мяккасць, няўменне адстойваць сваё, непаслядоўнасць — і рамантычная прага шукальніцтва свайго месца, сваёй дарогі, апантанае імкненне быць карысным свайму народу, сваёй Радзіме. Названыя рысы характару вызначаюць паводзіны і ўчынкі Тугоўскага: герой атрымлівае доўгачаканую стыпендыю — і адмаўляецца ад яе, кідае вучобу, пакутуючы ад таго, што яго каханая Вярхоўская аб'ектам сваёй увагі абрала іншага; урэшце, зноў «аднаўляецца ў студэнтах», помсціць свайму суперніку, знаёмаму яшчэ з дзяцінства «патрыцыю» Загорскаму, дамагаецца любай дзяўчыны, атрымлівае ад яе ўсё, пра што раней толькі мог марыць — ды раптам адмаўляецца ад усяго, едзе ў Заходнюю Беларусь «змагацца» і гіне ў абдоймах марознай завірухі, так і не ўбачыўшы ворага, не спраўдзіўшы ні сваіх надзей, ні спадзяванняў таварышаў.

Ідэйна-мастацкая парадыгма і быццёвая канцэпцыя рамана В. Вальтара апелююць да рускай і беларускай раманнай класікі: твораў М. Дастаеўскага, І. Тургенева, К. Чорнага. У «Роджаных пад Сатурнам» ёсць нават шэраг прамых аўтарскіх згадак і паралеляў з названымі пісьменнікамі. Гогалеўскімі персанажамі называе В. Вальтар некаторых сваіх герояў. «Ні даць, ні ўзяць «Мёртвы дом» Дастаеўскага», — думае Тугоўскі, наведваючы студэнцкі інтэрнат. Тугоўскі В. Вальтара — падвойнік Лермантаўскага Пячорына («Герой нашага часу»). «Сам я паніжаны і абражаны, сам я ўсё жыццё рос у склепах, пад падлогай тых, хто саладзіўся жыццём <…>, і таму як мне ня стаць у шэраг паніжаных і абражаных?» — задумваецца герой В. Вальтара, пэўна ж, пашыраючы кантэкставую структуру свайго твора і да рамана Дастаеўскага «Паніжаныя і абражаныя». Урэшце, сваім раманам В. Вальтар на беларускім матэрыяле распрацоўвае класічную праблему «лішняга чалавека», праблему адчужанасці. І для беларускай літаратуры яна станавілася на пачатку ХХ стагоддзя надзвычай актуальнай, абвострана балючай: найбольш таленавітыя і сумленныя прадстаўнікі Маладой Беларусі былі незапатрабаванымі чужаніцамі, непатрэбнымі ні савецкай краіне, ні эміграцкаму прытулку. «Ён быў «лішні чалавек», — піша пра Тугоўскага аўтар. — <…> нікому не патрэбны, ні для каго не цікавы, не для гэтага сьвету створаны чалавек. Яго цягнула ў «вышэйшыя сьферы», хапаць зоры з неба, але, на жаль, ён не радзіўся ў сям'і барона, яму <…> прыйшлося <…> самому рабіцца практычным й вечна думаць аб кавалку хлеба. <…> Усе лішнія людзі канчалі жыццё самагубствам або шукалі якога-небудзь сэнсу жыцьця. Знаменіты літаратурны бацька лішніх людзей Рудзін Тургенева, напрыклад, памёр у Францыі на барыкадах. І чаму ж нарэшце не пайсьці яму, Тугоўскаму, лішняму чалавеку, не знайшоўшаму нідзе ўласнага шчасьця, не аддаць сваё жыцьця для шчасьця іншых…».

Малавядомы раман В. Вальтара «Роджаныя пад Сатурнам» адметны і сваім прыгодніцкім сюжэтам, любоўнай інтрыгай, вызначаецца сваімі вобразна-выяўленчымі сродкамі, схільнасцю да псіхалагічнай аналітыкі, да прарочых палітычных паралеляў, да экзістэнцыйных высноў і абагульненняў. Галоўная думка, да якой прыводзіць В. Вальтар чытача свайго рамана, бачылася новай для беларускай літаратуры і вызначалася нетыповым гуманістычным гучаннем: карысным грамадству можа быць толькі шчаслівы чалавек. «Што значыць для яго грамадская справа і ўсе справы яго як грамадскага дзеяча, калі ён быў нешчаслівы, калі яму бракавала самага звычайнага маленькага асабістага шчасьця. <…> Пакуль чалавек чуе сябе нешчасьлівым, ніякія грамадскія справы не дадуць яму шчасьця». Зрабіць шчаслівым кожнага чалавека, а не аморфную людскую масу, — вось галоўная задача і клопат, на думку Віктара Вальтара, усіх часоў і эпох.

# Кола абраннікаў



Кастусь ТРАВЕНЬ
(1947—2021)

*Ці ж не мае ганчар улады над глінаю, каб з тога самага месіва зрабіць адзін посуд на ганаровае ўжыванне, а другі — на нізкае?»*

***«Пасланне Апостала Паўла да Рымлянаў»***

Фёдар Ліцьвін, па-зімоваму апрануты, павольна рухаўся па заснежанай Камароўцы, угледаўся ў людзей, якія там тусаваліся, вызначаў іх духоўную сутнасць. І пераконваўся, што той, хто жыў «сёння і тут» — ніякім чынам свядома не вызначалі ходу падзей. Такіх самых людзей ён некалі і вельмі даўно назіраў у дзяржаўных кабінетах, дзе, як ён думаў тады, якраз і выраблялася будучыня.

Ходзячы па рынку, Фёдар прагматычна адзначыў кардынальную перамену ў рэчаіснасці: ён адчуваў гэтую рынкавую рэальнасць як нешта неістотнае, што ўжо не закранала яго, нібы ён успрымаў сучаснасць праз нябачную перашкоду, свайго рода старажытную габрэйскую *аспаклар'ю*[1]. Быццам ягонае «Я» — нейкі вандроўнік з мінулага, што праездам выпадкова зазірнуў на незнаёмы і чужы рынак.

Урэшце стаміўшыся ад хады па шматлюдным рынку, Фёдар павольна рушыў ходнікам па вуліцы Чырвонай у накірунку рэдакцыі часопіса «Юнак».

Некалькі месяцаў назад пісьменнік занёс тры свае апавяданні ў маладзёвы часопіс «Юнак» загадчыку аддзела прозы Анатолю Самовічу. І вось цяпер Фёдар яскрава адчуў, што ягоныя рэалістычныя тэксты непатрэбныя цяперашняму грамадству і не будуць надрукаваныя ў дзяржаўным часопісе.

Загадчык аддзела прозы Анатоль Самовіч упэўнена сядзеў у крэсле-круцялі. Ён быў дагледжаны, камфортны, вядомы, запатрабаваны цяперашнім укладам жыцця і таму задаволены сабой. Пісьмовы стол быў завалены стосамі рукапісаў, сведчыў і стварэў уражанне аб выключнай працавітасці Анатоля. Паголены загарэлы і свежы твар, прычасаныя русыя ахайныя валасы, уважлівы і ветлівы позірк блакітных вачэй, цёмна-блакітная кашуля, фіялетавы гальштук, мяккая сінь тройкі, пах прыемнага дэзадаранта, — усё ствapaла вобраз сучаснага літаратурнага інтэлектуала.

— Так-так, нарэшце і да нас завітаў перспектыўны талент нашай літаратуры, — прамовіў Анатоль Самовіч, пазіраючы на немаладога сівога графамана, што прысеў на стулік насупраць, і гартаючы густа пачырканыя рукапісы апавяданняў пісьменніка. Рабіў ён гэта з упэўненай асалодай. Напэўна, збіраўся зрабіць з гэтага аматара прыгожага пісьменства звычайны шараговы кампост? — У вашых тэкстах ёсць цікавыя моманты, трапныя дэталі, свежае ўражанне ад жыцця. Але ў цэлым гэта публіцыстыка, характары падаюцца сімвалічна, нейкія бязлікія, хутчэй вы малюеце сітуацыі, а не чалавека. Дарэчы, вы самі паляк? Чаму вы карыстаецеся чужымі словамі: «бракавала», «параза», «габінет»…

— Гэта са слоўніка Байкова—Некрашэвіча, «габінет».

— Сёння ёсць унармаваная лексіка і дзяржаўна ўзаконеныя слоўнікі. Не трэба карыстацца аматарскімі напрацоўкамі літаратараў пачатку XX века. Вы наогул чытаеце наш часопіс, выпісваеце яго?

— Іншы раз гартаю, — схлусіў пісьменнік Фёдар Ліцьвін.

— Гэта часопіс для юнацтва! Для школьнікаў! Што гэта ў вас тут напісана: *«У яго не стаіць»*. Што за вульгарызм? Як вы гэта патлумачыце?

— У вёсцы заўсёды так казалі, калі не жэніцца, то, мабыць, *«у яго не стаіць?»*. — Аўтар быў крыху збянтэжаны, але імкнуўся захаваць годнасць.

Кансультант, унутрана задаволены, але знешне ветлівы, нібыта прыхільна пазіраў на празаіка і, напэўна, хацеў канчаткова дабіць правінцыйнага графамана напрацаваным сафізмам, якім ён заўсёды адпрэчваў надакучлівых аматараў і дылетантаў:

— Чытайце класікаў!

Але ў гэты самы момант, выпадкова зірнуўшы ў твар аматара, загадчык аддзела прозы заўважыў пільны, прагматычны позірк суразмоўцы, які сведчыў аб дасканалым інтэлекце. Позірк вывучаў яго, Анатоля, і не проста вывучаў: позірк пранікаў у ягонае духоўнае нутро і там гартаў і здымаў самыя важкія і найтаемныя звесткі.

— Можа, гарбаты ці кавы? — нечакана для сябе прапанаваў аўтару загадчык аддзела прозы Анатоль Самовіч. Ён раптам адчуў у сабе застарэлае і даўно зніклае пачуццё ўласнай няўпэўненасці і нават непаўнавартаснасці.

— Дзякуй, не трэба, — стрымана адказаў пісьменнік.

— Вось вы пішаце: *«Раз, і на матрас. І там, дзе закаханы рамантык поўгода цалаваў ручку паненкі і чытаў вершы, сучасны прагматык за адзін вечар вырашае праблему стасункаў…»*. Гэта папулярызацыя цынізма і вульгарызацыя рэчаіснасці.

— Папярэджанне!

— Каму?

— Прыгажуням і рамантыкам-ідэалістам.

— І што? Папярэдзілі? Што далей?

— Далей… праходзяць дзесяцігоддзі, разбураюцца дзяржавы, гінуць ідэалогіі. Прагматык прыходзіць да заканчэння часу свайго жыцця і раптам разумее, што ён прайграў, не дасягнуў нечага высокага і ўзнёслага, што ён прамінуў *Боскае*. Што ўрэшце рамантык — Пераможца!

— Гэта ўтопія! Мроя. Вы ідзеце за Лыньковым і Шамякіным, за Караткевічам і Янкам Маўрам…

— Я не іду за імі, я проста іду далей, чым яны. Мой герой не проста рамантык, у канцы жыцця ён духоўны волат, які ўзышоў на новы ўзровень чалавечых стасункаў між людзьмі, між жанчынай і мужчынай. Ён дасягнуў вызвалення ад дробнасці, ад меркантыльнасці, ад каўбасных мэт. Гэта ўзровень чалавека, які яшчэ ў гэтым жыцці прыйшоў да Бога.

— Так ужо і прыйшоў? — загадчык аддзела прозы Анатоль Самовіч адкінуўся на спінку крэсла-круцяля і дазволіў сабе зірнуць на аматара-пісьменніка з цікавасцю. Дазволіў, бо зранку рэдактарка часопіса Ала Калмыкова паведаміла яму прыемныя навіны, пахваліла ягоную працу за паўгода, намалявала перспектывы, і таму ён вырашыў зрабіць перадых, перазагрузіцца, адарваць позірк ад штодзённай працы над чужымі тэкстамі…

Гэты пісьменнік Фёдар быў, як здараецца заўсёды ў аматараў і дылетантаў, тым самым ідэалістам, які думае, што здолее здзівіць літаратурную супольнасць сваімі «геніяльнымі» тэкстамі, скажа нешта асаблівае і незвычайнае. Каб аматар-графаман ведаў, колькі непрызнаных «геніяў» прайшло праз ягоныя вочы, і ніхто з іх не стаў не тое што геніям, але і нават уладальнікам прэстыжнай дзяржаўнай ці міжнароднай прэміі.

Самовічу нават стала шкада гэтага пажылога чалавека з сівымі валасамі, стомленым абліччам, які не здолеў за пражыты час развітацца з дзіцячымі, інфантыльнымі ілюзіямі, працягваў мроіць, спадзявацца на веліч, бессмяротнасць. Некаторыя з «геніяў» змарнавалі ўласнае жыццё, напісалі куфры рукапісаў раманаў, аповесцяў і п'ес. Нехта нават дамогся прыняцця ў Саюз пісьменнікаў, але ніхто з іх не дасягнуў не тое што еўрапейскай вядомасці, а нават тутэйшага прызнання. «Няўжо і я некалі зраблюся такім пердуном і буду аббіваць ганкі рэдакцый?» — недаверліва падумаў Анатоль Самовіч і, крыху павагаўшыся, вырашыў трошкі расчыніць перад аматарам сакрэты літаратурнага поспеху.

— Каб набыць вядомасць, трэба не толькі быць адукаваным, філолагам па адукацыі, але яшчэ і трапіць у вузкае кола, *кола абраннікаў.*

Пісьменнік Фёдар Ліцьвін пазіраў лагодна, слухаў уважліва і рахмана адказаў:

— Я чытач больш як 60 гадоў. У 50-х, пасля вайны, хлапчуком я чытаў Шамякінскую «Глыбокую плынь», Пікуля «Акіянскі патруль», Лынькова «Векапомныя дні», «Ніколі не забудзем», што сабраў Пятро Рунец. Гэтыя кніжкі напісалі людзі, якія прыйшлі з вайны. Большасць з іх не былі прафесійнымі літаратарамі. На старонак іх кніжак адчуваўся не толькі трагічны подых падзей, але і чалавечая спагада, імкненне да дабра і справядлівасці.

Аматар-пісьменнік змоўк, праз кароценькую прамаўчанку дадаў, па-ранейшаму памяркоўна ў мяккай танальнасці, бязлітасную праўду, аб якой здагадваўся той-сёй з *кола абраннікаў*, але аб гэтым ніхто і ніколі не казаў так жорстка.

— Сёння, Анатоль, вы, *«кола абраннікаў»* — невядомыя шырокім масам і на электарат не ўплываеце. Апошнія 30 ці 40 гадоў вы пісалі пра прыдуманых партызан ды ідэалізаваных калгаснікаў. Вы не зрабілі аналіз рэчаіснасці. Не абагулілі! Не абстрагіравалі! Не заўважылі! Не зірнулі наперад! Не папярэдзілі грамадства аб будучыні! Фактычна не выканалі свайго прызначэння! Наадварот, вытапталі цікавасць да тутэйшых літаратурных мысляроў. Вы — вынік селекцыі мясцовай і маскоўскай бюракратыі, якая вывела пароду літаратараў, якія людзям нецікавыя і таму непатрэбныя.

Гэта былі нечаканыя, прафесійна акцэнтаваныя ўдары, як у майстроў бокса: левай па печані і правай па сківіцы. Твар загадчыка адзела прозы Анатоля Самовіча перакасіўся і здрыгануўся ад гэтых жахлівых магутных джэбаў і аперкотаў.

— Вам стварылі літаратурнае гета, агарадзілі тэрыторыю, далі некалькі памяшканняў, крыху грошай і паперы, пасадзілі выдрэсіраваных і нацкаваных наглядчыкаў-ваўкадаваў і абазначылі ворагаў у выглядзе тутэйшых аматараў прыгожага пісьменства: ідэалістаў, філосафаў, маргіналаў, паэтаў ад нараджэння; прызвычаілі вас да канфармізму, заахвоцілі дробнымі мэтамі, размылі нацыянальнае і Боскае…

Анатоль Самовіч быў дасведчаны прагматык і літаратар, умеў выплываць у складаным жыццёвым часе, прыстасоўвацца, рабіць фінты, ухіляцца ад самых моцных прафесійных інтрыг, але цяпер ён, на разняволенасці, страціў пільнасць, атрымаў шраг добра сфармаваных разумовых аплявух, якія балюча пашкодзілі ягонае камфортнае самаадчуванне…

Пісьменнік узняўся:

— Следам за Максімам Горкім я магу паўтарыць: «Ідзіце ў жыццё».

Ён змрочна зірнуў на ўзрушанага і збянтэжанага загадчыка прозы Анатоля Самовіча і, пэўна, пашкадаваўшы яго, са спачуваннем дадаў:

— Ваша мэта і веліч — шукаць і ўзрошчваць тутэйшыя таленты… Мацаваць грамадства, з'ядноўваць народ, выхоўваць патрыятызм і любоў да Айчыны…

…Фёдар мякка, са старэчай ураўнаважанасцю, тлумачыў загадчыку аддзела прозы Анатолю Самовічу азы калектыўнай барацьбы за выжыванне.

— Заняў, дружа, важкае месца, і думай, як памагчы свайму народу падняцца па прыступках жыцця. Наш доўг — памагаць тутэйшым ствараць сваю ўзнёслую і эфектыўную *мадэль жыцця*. Чужым памогуць чужыя. А вы, Анатоль, ствараеце перашкоды сваім. Думаеце, што працуеце на самога сябе, а на самай справе супраць. Не ўсвядомілі, што такое *еднасць народа*, грамадства! *Кодэкс Ліцьвіна* не чыталі! Зноў той самы чужы ардынскі пастулат: *«Думать не нужно — за тебя думает Великий Кормчий!»*.

Ён збіраўся пайсці, пакінуўшы, як ён думаў, загадчыка аддзела прозы Анатоля Самовіча ў стане роздумаў, пераасэнсавання і ўсведамлення. Але Фёдар Ліцьвін памыліўся, і моцна, бо Анатоль ужо ачомаўся, амаль імгненна прывёў сябе ў баявы дамінуючы стан жыццядзейнасці *«бойца невидимого фронта»*.

«Аматар не хоча быць кампостам!» — едка зразумеў загадчык аддзела прозы і з помслівай асалодай прадоўжыў сваю думку: «Я дапамагу яму прызнаць сябе свінячым гноем альбо ператвару ў дробны пыл».

— Часткова згодзен з вамі! Мы аплочаная дзяржаўнай уладай частка інтэлектуальнай эліты, мэта якой не пускаць у літаратуру розных аўтсайдэраў, няўдачнікаў, бязграматных лузераў, каб яны не тлумілі галовы народу і моладзі сваёй псіхапатыяй, мізантропіяй і саўковасцю. І што? І хто сёння можа, стукнуўшы сабе ў грудзі, сказаць, што ён ведае жыццё? Вы? Сумняваюся!

Анатоль Самовіч рашуча ўзняўся са свайго крэсла-круцяля і цяпер варожа пазіраў на графамана-аматара.

Фёдар Ліцьвін разглядваў аблічча загадчыка прозы часопіса «Юнак», і Анатоль зноў адчуў пад вострым, пранікілівым позіркам аматара, як той гартае ўнутры ягонай душы таемныя звесткі жыццёвага лёсу.

Пісьменнік яшчэ раз, ужо з маркотай, азірнуў усю постаць літаратурнага функцыянера, чамусьці змрочна хэкнуў і рашуча пайшоў да дзвярэй…



Фота shutterstock.com

[1] Аспаклар'я (габрэйск.) — «шкло», перашкода, што аддзяліла пракоў і праведцаў ад духоўных сусветаў.

# Колеры ўяўленняў



Аксана ДАНІЛЬЧЫК

***

*Ён проста разносіў каву,*
*рухаўся амаль нячутна*
*за нашымі спінамі...*
*Я падумала, што па ўзросце*
*ён мог бы быць маім сынам...*
*Згадала пра сына,*
*як мы жартуем, як размаўляем,*
*падумала, што для мяне ён асоба.*
*Дома.*

*А на гэтага хлопчыка*
*увагі ніхто не звяртае.*
*Яго роля ў дадзены момант —*
*роля неіснавання, ценю.*
*Але ці мяняе кантэкст асобу?*
*Калі нас проста не бачаць,*
*ну, ці амаль, калі мы —*
*толькі функцыя.*

*Перамовы працягваліся,*
*неба за вокнамі*
*ўрэшце зрабілася шэрым,*
*пасля пацямнела.*
*Кубачкі вынеслі.*
*Бразнулі ўрэшце дзверы.*
*Вось гэты момант ісціны,*
*пераразмеркавання роляў.*
*Дык дзе ж нашыя ролі сапраўдныя,*
*хто мы?..*

***

*Я стаю на балюстрадзе,*
*свет — нібыта на парадзе,*
*урачысты і святочны,*
*светлы чысты і нязмрочны,*
*у стэрыльным бляску белым*
*перад сонцам схаладнелым.*

*Я стаю на балюстрадзе,*
*я не думаю аб здрадзе,*
*толькі ўзмахваю рукамі*
*над сівымі берагамі,*
*разганяючы аблокі*
*па-над безданню глыбокай.*

*Я стаю на балюстрадзе,*
*у душы маёй бязладдзе,*
*пад зямлёй вада плюскоча,*
*а святло казыча вочы*
*і чырвонымі кругамі*
*разбягаецца над намі.*

*Хто загінуў у змаганні,*
*хто змяніў пераканanні,*
*хто прадаў сваю краіну,*
*хто бясследна ўрэшце згінуў,*
*зубы сцяўшы, бы ў засадзе,*
*я стаю на балюстрадзе.*

***

*Страціш усіх багоў*
*і думаеш, як бы вытрымаць,*
*прыходзяць з усіх бакоў*
*прыцемкі, прыцемкі, прыцемкі.*

*Прыцемкі не на час,*
*прыцемкі не на імгненне,*
*прыцемкі не на раз,*
*прыцемкі як здранцвенне.*

*Прыцемкі як глыбіня*
*снежна-шэрага дня,*
*прыцемкі як сцяна,*
*прыцемкі не аднак.*

*Прыцемкі не нагбом*
*твой запаўняюць дом,*
*толькі адзін ліхтар*
*прыцемкаў гаспадар.*

*Снег пад ім залаты,*
*быццам твая надзея,*
*зззяюць пад ім драты,*
*зззяе пад ім завея.*

*Зззяе пад ім турма*
*цёмных і змрочных дзён,*
*думаеш нездарма*
*прыцемкавы палон?*

*Ціснуць з усіх бакоў*
*прыцемкі, прыцемкі, прыцемкі,*
*страціш усіх багоў*
*і думаеш, як бы вытрымаць.*

***

*Слухай.*
*Вуха да зямлі.*
*Шэпт апалага лісця.*
*Рудасць,*
*загорнутая ў шэрую абгортку*
*прыцемкаў.*
*Раблю што магу.*
*І тое, што не магу.*
*Рассоўваю межы туману.*
*Разумею — ці не разумею —*
*куды і як.*
*Але спрабую.*
*Словы — кароткія,*
*як дыханне кавідніка.*
*Пост-кавідніка.*
*Крок.*
*Кашаль.*
*Ізноў крок.*
*Не аступайся.*
*Не бойся.*
*Шэпт апалага лісця пра гэта.*
*Не, не так.*
*Пра жыццё.*
*Проста дзень такі,*
*дванаццатае лістапада...*
*Р. Б. = РБ*
*І таму — жыве.*
*І ты — жыві...*

***

***Іі Ківе***

*Вось, ты ніколі больш не вернешся*
*дадому,*
*і надалей чужыя патэльні*
*на чужых кухнях*
*будуць біцца аб чыгунныя газоўкі*
*грукатам небяспекі і для мяне таксама.*

*І вечная вайна будзе ліцца з кранаў*
*на ўсходзе і на захадзе,*
*на поўдні і на поўначы,*
*мяняючы колеры нашых уяўленняў*
*пра еднасць усіх і кожнага.*

*Калі закрывавілі вогнішчы зорак,*
*ноч вырвала ў неба чырвоны язык*
*заходу,*
*а словы ператварыліся*
*ў неабавязковыя артэфакты шаманаў.*

*Ніякі снег не здолее засыпаць*
*бясконцых мёртвых птушак,*
*пакуль разламаны крык*
*працягвае падаць*
*рэшткамі самалёта на нашыя лёсы.*



Фота Аксаны Данільчык

## Кіеў — Мінск

***Яраславе Хаменка і Оляне Руцэ***

*Дома? Дома.*

*Нібы ад таго, што ты дома,*
*на імгненне спыняецца вайна.*
*Я таксама дома, увесь час онлайн,*
*збіраю аскепкі*
*сваёй раструшчанай галавы,*
*а яны ніяк не збіраюцца,*
*не склейваюцца.*

*Дома? Дома.*

*Малітва за Украіну,*
*а можа, за Украіну і Беларусь?*
*Але ж за ворагаў таксама*
*трэба маліцца,*
*дык што, пісаць і за...?*
*Рука не падымаецца,*
*пішу — за мір.*

*Дома? Дома.*

*Хроніка абвешчанай смерці*
*траплялася ўвесь час*
*мне на вочы*
*птушкамі з разадранымі целамі,*
*я думала — для чаго мне гэты знак,*
*а знак быў для ўсіх нас.*

*Дома? Дома.*

*Можа быць, бомбасховішча?*
*Там усё роўна мала месца...*
*О, неба, што разрывае над намі*
*бомбы,*
*о, ванітоўная абыякавасць тых,*
*хто мог бы яго закрыць,*
*о, агіднае кола гісторыі,*
*о, праклятыя ненажэрныя*
*чужыя вантробы...*

*Дома? Дома.*

***

*Сёстры!*
*Слёзы б'юцца мне ў скроні*
*неўтаймаванай крывёй —*
*я б не хацела пісаць так вершы —*
*вашаю і маёй —*
*я б не хацела пісаць так вершы—*
*і ў неба глядзець*
*усведамляючы, што дзесьці*
*за даляглядам*
*чорным попелам ночы пасыпае*
*дарогі смерць.*

*Сёстры!*
*Нярвовае сонца месца не можа*
*сабе знайсці,*
*ад думкі, што гэты світанак —*
*магчыма апошні ў жыцці.*
*Яно то хаваецца, то выглядае ізноў,*
*і адчай,*
*бачны нават з-за кратаў аблокаў,*
*змушае крычаць:*

*Сёстры!*
*Свет імгнення змяніўся проста*
*на нашых вачах.*
*Ці могуць словы, што мы напісалі,*
*спыніць гэты жах?*
*Але вясна не адступіць,*
*спадуць ланцугі ледзяныя,*
*лясне вясновы гром,*
*і разгарне свае крылы вольная чаіца*
*над нашым Дняпром.*
*Сёстры.*

***

*Французская дзяўчынка*
*скінула чаравікі*
*і бегае ў жоўтых калготках*
*па жоўтым пяску.*
*Сакавік у Дункерку зусім не халодны,*
*ніхто на яе не сварыцца,*
*пляж заліты сонцам.*

*Гледзячы на яе, разуваюся сама,*
*ступаю ў капронах*
*па мяккім беразе,*
*спрабую зразумець зямлю,*
*адчуць яе душу і, можа быць, нават*
*убачыць царкву сярод дзюнаў.*

*Не, я ні пра што не забылася,*
*але, здаецца, што вайна*
*засталася на іншым кантыненце,*
*далёка-далёка.*
*Сёння — далёка-далёка.*

*А ўчора — блізка-блізка,*
*таксама хадзіла разутая*
*па гэтым пляжы,*
*хавалася ў рэдкіх купках асакі,*
*з надзеяй углядалася ў хвалі.*

*Іншы свет, іншыя людзі.*
*Ці тыя самыя, толькі ў іншым*
*жыцці?*
*Ці мы ўсе — тыя самыя*
*на жоўтым пясочку*
*паміж войнамі.*

*Бо заўтра... Што будзе заўтра?*

***

*Калі-небудзь пра мяне здымуць кіно,*
*і я іншым разам думаю,*
*а што ж будзе ў гэтым фільме?*

*Траса сярод восеньскага лесу*
*пад музыку Баха ці без.*

*Узлётная паласа на аўтастрадзе*
*і мой погляд, скіраваны да аблокаў,*
*быццам я кірую самалётам*
*і мы вось-вось уздымемся ў неба*

*(разумею тых лётчыкаў,*
*што пераблыталі сама-ход*
*з сама-лётам,*
*і сапраўды ўзляцелі,*
*хоць палёт іх скончыўся сумна).*

*Замак падсвечаны ў цемры,*
*і туман, што абступае яго з усіх бакоў.*

*А можа быць гэта толькі фон,*
*які працягне жыць сваім жыццём*
*пасля таго, як скончыцца фільм?*

*У яго фінальных кадрах я прачытаю*
*біяграфію, напісаную мной*
*і тым, хто паставіць апошнюю дату.*



Барыс ПЯТРОВІЧ

# Фрэскі

**Ножык займець**

У маім дзяцінстве самай вялікай марай хлапчукоў было займець ножык — звычайны сцізорык-складанчык.

У ім магло быць толькі адно лязо. Магло быць два — вялікае і маленькае. А магло і яшчэ шмат іншых патрэбных і непатрэбных дапаможных зручнасцяў — каб адкаркоўваць пляшкі ці кансервы, напрыклад, альбо нейкае шыльца.

Але абавязкова — вялікае лязо. Яно было найважнейшым, бо апроч розных карысных спраў, дзеля якіх і вынайдзены нажы ды ножыкі, яно прызначалася для гульняў, што распачыналіся на вуліцы, як толькі сыходзіў снег.

Гульняў з ножыкамі было шмат, але самыя распаўсюджаныя дзве: у «зямлю» і ў «бабу-й-дзеда». У першую гульню маглі гуляць і хлопчыкі, і дзяўчынкі, а ў другую звычайна гулялі толькі хлопчыкі. У «зямлю» гуляць было проста: цюкай ножык, узяўшы яго за тронкі альбо за дзюбку, што складаней, у азначаным крузе ды прыразай чужую зямлю да сваёй, пакуль у супернікаў нічога не застанецца. А вось у «бабе-й-дзеду» былі дзясяткі два паслядоўных камбінацыяў, як трэба ўтыркаць ножык у зямлю, і не кожны і не адразу мог іх зрабіць усе запар. Калі нехта «страчваў» — ягоны ножык не ўтыркаўся, а падаў, то мусіў пачынаць спачатку. Перамагаў той, хто рабіў усе камбінацыі «бабы-й-дзеда» па чарзе без стратаў. Прычым найчасцей гулялі не адным ножыкам, а кожны сваім, вывучаным, адбалансаваным.

Што атрымліваў пераможца і што рабілі тыя, хто прайграў — дамаўляліся загадзя. Старэйшыя хлопцы, можа, недзе гулялі й на грошы ці нешта іншае вартае, а малыя прыдумвалі нейкія пакаранні тым, хто прайграў, ці проста распачыналі гульню нанава і гулялі, пакуль не надакучыць ці… не сцямнее. У нас пасля «бабкі-дзедкі» пераможца рваў і дробна наразаў першую вясновую траву. Той, хто прайграў, шырока разяўляў рот і махаў хуценька-хуценька перад ім сваім ножыкам, а пераможца кідаў траву, цаляючы яму ў рот. І частачка травы абавязкова трапляла. Прайграўшы адплёўваўся, а ўсе смяяліся.

Не, ну які ты хлопчык без ножыка… Гульні-гульнямі, але ж без яго і ў лес не пайсці, і свісток ці караблік не выразаць… Купіць яго першай справай прасілі дарослых, часцей бабулю ці дзядулю. А калі тыя не разумелі, навошта, не пагаджаліся, баяліся, казалі: парэжашся ці яшчэ пырнеш каго незнарок, то на ножык збіраліся капейка да капейкі грошы, што даваліся на школьны абед, марожанае, ці тая драбяза, што заставалася «здачай» у краме, калі купляў хлеб ці нешта іншае, і яе дазвалялася не вяртаць маме. А хтосьці і цішком, незаўважна «браў» у кішэнях бацькоў.

Каштавалі самыя простыя сцізорыкі адносна не дорага. Ад дванаццаці капеек. Хоць былі і па некалькі рублёў, але, звычайна, самыя падыходзячыя для гульняў і ўвогуле ўсяго — капеек трыццаць-пяцьдзясят, сабраць якія мог кожны.

Тым летам да нас прыехаў мамін брат дзядзька Коля з сям'ёй ажно з Сахаліна — на радзіму, на адпачынак. Як і ўсе палешукі, быў ён грыбнікам, і дзеля гэтага, казаў, набыў сабе ў маракоў у Карсакаве адмысловы ножык: дарагі, швейцарскі — чырвоненькі з серабрыстым крыжыкам на баку. Чаму ён набыў менавіта яго дзеля грыбоў — невядома, бо ў грыбы зручней хадзіць нават са звычайным кухонным нажом, а не з гэтым, бо быў ён занадта тоўстым ад шматлікіх, зноў жа патрэбных і непатрэбных, зручнасцяў, а сам ножык — галоўнае лязо — тырчэў недзе знізу і збоку. Але чаго ў ім толькі ні было… Ну найперш два ножыкі — большы і меншы, з добрай сталі і такія вострыя, што нат галіцца імі можна. А яшчэ штопар, адвёртка, шчыпчыкі, пілка для пазногцяў, наждачка, некалькі розных адчынялак для пляшак і бляшанак, шыльцаў, кручкоў невядома для чаго і, нарэшце — маленькія нажнічкі… Вось яны здзівілі мяне больш за іншыя прылады і прыладкі. Адразу, калі я ўбачыў гэты ножык, мне так захацелася мець яго, што я быў гатовы на ўсё. Я паказаў дзядзьку свае самыя таемныя грыбныя мясціны, дзе раслі лісічкі і падасінавікі, рыжыкі ды грузды, і нават мясцінку, дзе заўсёды мяне чакалі адзін-два баравічкі. Так, заўсёды, нават у самую страшную спякоту, а ў грыбны, дажджлівы час і некалькі дзясяткаў можна было там знайсці, нетаропка праходзячыся. Я абходжваў дзядзьку і так, і сяк, і бачыў, што ён разумее, чаму гэта раблю, але ножык і яму быў нечым дарагім, а таму развітвацца з ім ён не хацеў. Тут трэба сказаць, што гэта былі сямідзясятыя гады дваццатага стагоддзя, калі яшчэ ўсё «імпартнае» было вялікай рэдкасцю, бо з цяжкасцю трапляла ў нашую тагачасную краіну.

У мяне, вядома, быў ножык. І не адзін, а цэлых два. Адзін куплёны, другі знойдзены. І абое добрыя: сáма па руцэ. Адточаныя, дагледжаныя. Але хіба яны маглі параўнацца з тым дзядзькавым…

Аднак вось адпачынак скончыўся, і надышоў дзень ад'езду дзядзькі дамоў, на Сахалін. Праводзіны былі наладжаныя па-тагачаснаму, панашаму — шырока, з запрашэннем суседзяў. Гарэлка лілася ракой, гучалі песні, каля дома ўжо стаяла машына, каб адвезці дзядзьку з сям'ёй на чыгуначны вакзал. Яшчэ з раніцы я заўважыў, што ножык ляжыць на падваконні каля ложка, на якім спаў дзядзька. Ён паклаў яго навідавоку, пэўна, каб не забыць, бо не схаваў у чамадан, калі складваў усе рэчы. Відаць, хацеў, каб ён быў пад рукою і ў цягніку, і ў самалёце — тады іх яшчэ не забаранялі браць з сабой. У самы разгар п'янкі і развітанняў я ціхенька падышоў да вакна і скінуў ножык з падваконня на падлогу. Ён упаў за ножку ложка, але мне быў бачны, як на далоні. Тады я падышоў да яго, падумаў, куды лепш адсунуць: далей пад ложак, дык адразу здагадаюцца і зазірнуць, знойдуць, і я адпіхнуў ножык далёка пад шафу, што стаяла ля другой сцяны, пад самы плінтус — чырвоны, як падлога і амаль як ножык.

Усё ішло добра, ужо вынесеныя чамаданы да машыны, ужо дзядзька пераабдымаўся, і не раз, з усімі роднымі і суседзямі, ужо збіраўся сядаць у машыну, і я з радасцю назіраў за ім, як раптам ён ляпнуў сябе па кішэнях і, не намацаўшы патрэбнае, спытаў у майго бацькі: «А дзе ж мой ножык?». Успомніў, дзе яго клаў, пайшоў да вакна і… зразумела, не ўбачыў яго там. Далейшае развітанне ператварылася ў пошукі ножыка. І шчырэй за ўсіх дапамагаў шукаць яго зразумела хто — я… Нават на верх шафы зазіраў і пад ложкам поўзаў. Час да адпраўлення цягніка набліжаўся няўмольна, дзеці дзядзькавы плакалі, жонка ягоная паглядала на гадзіннік і крычала яму, што яны спозняцца і дарагія білеты прападуць, а ён тут са сваім ножыкам… Нарэшце дзядзька апошні раз зірнуў на мяне і сеў у машыну… Ножык застаўся ляжаць глыбока пад шафай, дзе праз некалькі дзён я яго шчасліва і знайшоў, пра што мама напісала брату і ў адказ атрымала ліст ад дзядзькі: ну калі так, то няхай ножык будзе падарункам пляменніку…

Ці варта казаць, што з першым выхадам на гульню са сваім новым ножыкам я набыў з дзясятак зайздроснікаў — хлопцаў з нашай вуліцы. І маладзейшых, і старэйшых за мяне. Гуляць у «бабу-й-дзеда» ці «зямлю» гэтым ножыкам было нязручна: затоўстыя тронкі пераважвалі лязо, і ножык падаў не дзюбкай, а бокам, уніз. Але ножыкаў для гульні хапала і без яго, а вось, да прыкладу, акуратненька састрыгчы пазногці, і без таго пааблamaныя, паабгрызеныя, хацеў кожны. Дужа ж ладненька выходзіла.

Пасля некалькіх спробаў-прапановаў памяняцца ножыкамі з давескам ці даплатай, хлопцы, падобна, супакоіліся і больш не торгалі мяне за рукаў.



Канікулы скончыліся, пачаліся заняткі ў школе. Вядома, з ножыкам я не разлучаўся і там. Аднакласнікі ўжо ведалі, што ён заўсёды са мною, і прасілі то аловак падтачыць, то паперу парэзаць, а то і… пазногцікі падраўняць. Асабліва спадабаўся мой ножык настаўніку працы Івану Пятровічу. З-за незвычайнай вастрыні было ім зручна падгабляваць нават нейкую самую маленькую дэтальку.

Заканчэнне на стар. 7 »

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

— Ну дзе там наш ножык, — казаў ён, гледзячы на мяне, — без яго тут ніяк, давай вось тут крышачку падточым, і ўсё пойдзе як па маслу.

Мне асабліва прыемна было гэтае ягонае «*наш* ножык».

І вось аднойчы на ўроку працы, калі ён так сказаў, я палез у кішэню па ножык і… не намацаў яго там. Іван Пятровіч чакальна зірнуў на мяне і адразу ўсё зразумеў па маім твары:

— Няма… Дома забыўся?

— Ды не, я браў яго з сабой. Перад гэтым урокам Ваську даваў аловак падтачыць.

— І ён табе не аддаў?

Я зірнуў на Ваську, які таксама разгублена глядзеў на мяне:

— Ды не. Аддаў.

— Ну дык нясі сюды.

— Няма яго.

— Як няма?

— Няма ў кішэні, дзе ляжаў. Відаць, выпаў… неяк.

— Згубіў… Ай-я-яй, такі добры ножык… — і супакоіў: — Нічога, знойдзецца. Усе ведаюць, што ён твой. Знойдуць і аддадуць.

Але ножык не знайшоўся. Ні праз дзень, ні праз два. Не знайшлі яго і не аддалі. А, можа, і знайшлі ды не аддалі. А можа, заваліўся недзе ў траву альбо ў шчыліну нейкую ў падлозе пад партай, і па сёння ляжыць там ды пасмейваецца… Словам, прапаў ножык, як і не было. Я так і не даведаўся з часам: ці сам згубіў яго, ці нехта цішком «узяў» у мяне. Але калі хто і займеў яго, то ён так і не змог пакарыстацца ім адкрыта. Бо ні ў кога я больш так і не ўбачыў такога ножыка, пакуль сам не паехаў за мяжу і там не набыў сабе падобнага. Праўда, надоўга ён у мяне не затрымаўся. Убачыўшы, якімі вачыма глядзіць на ножык мой малы пляменнік, я адразу ж падараваў яго яму, ні на хвілю не пашкадаваўшы пра гэта, а наадварот, парадаваўшыся такой мажлівасці: хоць такім чынам адплаціць доўг дзядзьку. Бо зразумеў з гадамі, што набытае няправедна надоўга ў цябе не затрымаецца, што хітрасць ды хцівасць не лепшыя дарадцы, што табе належыць толькі тое, што ты прыдбаў сумленна ды шчыра.

# Фрэскі

**Просты аловак і гарбатка**

мне карцела табе патэлефанаваць, а я ўсё не адважваўся

ніяк…

я ўяўляў цябе ў тваім пакоі і баяўся парушыць твой спакой сваім нячайным — хоць, мажліва, і чаканым званком

ты сядзіш цяпер за сталом і пішаш — а чым яшчэ можа займацца пісьменнік у гэты час дома: не тэлевізар жа глядзіць і, тым болей — не гуляе ж у кампутарныя гульні

кампутар, зразумела, побач; але ён не ўключаны нават: ты так і не прывык пісаць — добрае слова: *пісаць*, дакладнае, ёмістае — так і не прывучыўся *пісаць* на пішучай машынцы (друкарцы), і таму цяпер не карыстаешся кампутарам, а пішаш, як і сто, як і тысячу гадоў назад пісалі пісьменнікі — ад рукі на паперы

алоўкам

простым алоўкам

на добрай белай паперы

акуратна складзенай напалам

пішаш адразу, без чарнавікоў

некалі я спытаў у цябе: чаму ты пішаш менавіта простым алоўкам, а не асадкай, не пяром? ты ж усё роўна не выпраўляеш потым свае тэксты, не сціраеш слоўцы і не ўпісваеш на іх месца новыя, больш дакладныя?

ты сказаў: так, мой прынцып ніколі не выпраўляць напісанае, бо ведаю, што немагчыма двойчы ўвайсці ў адзін і той жа настрой, а значыць, і ў адзін і той жа тэкст, і, правячы потым, можна толькі сапсаваць аднойчы напісанае

а чаму простым алоўкам?

не ведаю… неяк само сабою так склалася, падабаецца мне, як лёгка пакідае ён свой след на паперы, як не замінае плыні думак і як паспявае разам з ім рука за думкамі… асадкай так не атрымліваецца чамусьці, а тым болей на друкарцы ці кампутары

разумею, падтрымліваю яго, на кампутары, бывае, цюкнеш не па той літары, заўважыш памылку, пачынаеш правіць, і ўсё — збіўся з тропу, страціў тую самую лёгкую плынь думкі, і вярнуцца да абарванага, адсечанага памылкай думання ўжо не здалееш

мы з ім амаль ніколі не спрачаемся, разумеем адзін аднога, як кажуць, з паўслова, а калі і пярэчым, дык так мякка, паўжартам, што гэта ледзь заўважна і зусім не раздражняе ні мяне, ні яго

гэта так важна сябрам: не раздражняць адзін аднаго, асабліва недакладным, няправільна ўжытым словам

бо гэта — самае балючае

пісьменнікі, блін

ага, вось і я, незаўважна для сябе, назваўся пісьменнікам, хоць такім сябе не лічу і вельмі не люблю, калі хто гэтак мяне называе

ну які я пісьменнік… хіба што побач з ім, мэтрам, мне, як кожнаму, хто ў вольныя хвіліны адважваецца крэмзаць паперу, нельга такім не быць

нельга не быць

і няма гэтаму ні тлумачэння, ні апраўдання, ёсць толькі тэксты, якія нехта павінен прызнаць творамі

нехта, толькі не ты сам (тут я пераходжу на «ты», бо так больш правільна будзе)

нехта, але не твой сябар, які таксама нешта піша і таксама бясконца сумняваецца ў вартасці напісанага

хоць ён — мэтр

мо таму і мэтр, што сумняваецца…

і не важна, што ты не любіш гэтае слова — пісьменнік — адносна самога сябе, і ніколі сябе гэтым словам не называеш — гэта твае праблемы

асабістыя

і таму не вартыя выедзенага яйка дарэчы, ты ніколі з ім, з тым, каго называеш мэтрам, пра гэта не размаўляў, але ў цябе цяпер, калі ты гэта думаеш і запісваеш, з'яўляецца сумненне, яшчэ не саспелае, не яркае, не ўпэўненае ў сабе, але сумненне ў тым, што і ён, мэтр, лічыць сябе пісьменнікам

а тым больш — мэтрам

надта ж гэта моцнае слоўка, надта да многага яно абавязвае, бо адразу ўсплываюць імёны Пісьменнікаў, Творцаў і побач з імі ні імя мэтра, ні тым больш тваё — неяк не становяцца

пакуль

прынамсі, пакуль, хочацца думаць табе адносна мэтра

пэўна, проста павінен прайсці час, які ўсё і ўсіх расставіць па сваіх месцах…

так было шмат разоў у гісторыі літаратуры, што тыя, хто быў папулярны пры жыцці, забываліся адразу пасля смерці, і наадварот: непрыкметныя, а мо і затаптаныя больш нахабнымі сучаснікамі, раптам усплывалі, займалі месца некалі папулярных і зацьмявалі іх

незаўважна для сябе ты ў чарговы раз бярэш у рукі тэлефон і зноў адкладваеш яго (во, тут трэба — варта! — вяртацца да «я»)

ага, я ў чарговы раз бяру тэлефон і адкладваю яго, бо ўяўляю сябра-пісьменніка, і мне падаецца, што менавіта ў гэты момант ён адарваўся ад пісання і пайшоў запарваць гарбатку

а гэта — святое

даўно заўважыў, што мы нават на адлегласці адчуваем адзін аднога і, часта бывае, адначасова хапаемся за тэлефон, каб набраць нумар сябра

але — калі я спыніўся, то чаму ён не тэлефануе мне? таксама шкадуе, таксама мяркуе, што можа патурбаваць мяне якраз падчас працы?

пайду і я запару гарбаткі

мы не п'ем кавы, калі працуем — такая склалася звычка, і не палім увогуле, болей за тое, не п'ем нічога алкагольнага, нават піва — прынцыпова

толькі гарбатку — добрую чорную гарбату

моцную

недзе такую называюць «чыфірам», але мы не любім гэтае слова і ніколі не ўжываем яго, бо аддае яно нечым… турэмным, кажам проста — моцная гарбатка

менавіта так, ласкава: гарбатка

чорная, як сумленне фашыста — жартуем мы, цытуючы аднаго аўтара, які таксама не любіў, думаецца мне, каб яго называлі пісьменнікам, але стаў ім, у тым ліку і ў маім разуменні

праз шыпенне электрычнага чайніка (імбрыка), якое нарастае і пераўтвараецца ў настойлівае, нястрымнае булькатанне, якое вось-вось абарвецца на самай высокай ноце, я чую званок тэлефона: гэта значыць, што мэтр ужо згатаваў гарбатку і, папіваючы яе — я ўяўляю, я бачу, як ён прыцмоквае ад яе гарачыні і прысёрбвае — набраў мой нумар

ні на хвілю не сумняваючыся, што гэта ён, адказваю: алё

як жыў-дуж? чым займаешся ў дадзены момант жыцця? — пытае сябар

як і ты — гатую і п'ю гарбатку: чорную, як сумленне фашыста

ха-ха… значыць, працуеш… (сябар глыбока ўздыхнуў) добра… а ў мяне праблема: мае героі набраліся нахабства ды самастойнасці і ніяк не хочуць развітвацца са мною

дык забі іх, хай у іхнім доме, у кватэры суседа, узарвецца газ ці…

не трэба… не працягвай… не да жартаў мне… я іх ужо тройчы спрабаваў пахаваць — ажываюць… заразы…

о, тады тым болей няма праблемы — абрывай аповед на любым месцы: чытачы любяць «адкрытыя» канцоўкі — дадумваць за аўтара амаль тое, што і самому быць аўтарам

ты мяркуеш, што я не здольны дадумаць да канца сам?

не сумняваюся ні хвілі — дадумвай, секані з-за пляча, нечакана, нелагічна, абсурдна, як можаш толькі ты

дзякуй за дазвол! я іх зараз утаплю, яны ў мяне якраз у круізе па Міжземным моры, падплываюць да Венецыі, мараць пабачыць магілу Бродскага, вось я ім зараз і пабачу…

ды не крыўдуй, я ж па-сяброўску

я не крыўдую… мне іх проста трэба разлучыць… не люблю «шчаслівых» канцовак: у жыцці так не бывае

якраз наадварот — найчасцей бывае менавіта так: банальна, проста — шчасліва без двухкосся… вяртай іх дамоў, яны пад'язджаюць да роднага… да роднага парога, бачаць грушу-дзічку ў квецені, як у вэлюме, і сэрцы іхнія напаўняюцца салодкай спато…

не здзекуйся… я сур'ёзна

зусім не думаў і не збіраўся здзекавацца, прабач, калі што, за банальшчыну

не ведаю: навошта я табе сказаў, навошта тэлефаную? зусім мазгі паплылі, як тыя туманы над ракой ці… рушнікі па рацэ

тады вось што: яны стаяць на носе карабля, вецер, ласкавы марскі вецер, трэпле іх ільняныя валасы, і яны…

перастань! гэта мой аповед, і я не дазволю табе сваімі бруднымі, валасатымі… думкамі псаваць яго!

о, нарэшце я цябе зачапіў… за жывое… я рады… хутчэй хапай аловак і за стол — гэта той самы настрой, якому натхненне непатрэбнае, падчас якога і нараджаюцца шэдэўры

дзякуй і на гэтым, а я вось сядзеў над скамечаным аркушам і згадваў аднаго Народнага, які запісаў некалі словы сябра-пісьменніка: «не пішацца… сяджу, уздыхаю, як конь над пустым цэбрам»; думаю, як пра мяне казаў…

слухай, як хораша, як дакладна: уздыхаю, як конь над пустым цэбрам… так і бачу гэтую карцінку… але мы з табою ці не апошнія тут з тых, хто можа ўявіць яе і пасмяяцца, і парадавацца дасціпнасці і… дакладнасці сказанага, бо сённяшняя моладзь ужо і не ведае, што такое цэбар, а шмат хто і каня бачыў толькі па тэлевізары…

так (сябар зноў глыбока ўздыхнуў)

ну і я вось таксама, як і ты — сяджу, уздыхаю і… п'ю гарбатку

чорную, як…

так…

пасмяяліся

і на гэтым развіталіся

апошнія з магіканаў…

не, з… беларускіх пісьменнікаў

# Кроплі кроз



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

### Блазан

*Я бязлітасны блазан*
*на арэнах вашых далоняў,*
*Да апошняга сольда*
*на выступе кожным плачу́,*
*І з пацехай правалаў,*
*і з плачам авацый знаёмы,*
*Бо шматкроць разбіваў*
*аб вачэй пілавінне душу.*

*А ў расквечаных цырках*
*і ў пазаплёўваных залах*
*Правінцыйных тэатраў*
*сабе паўтараю адно:*
*— Знайдзі сілы ніколі*
*ў пагардліва-роспачным шале*
*Перад публікай сытай*
*не зганіць каханне сваё!*

*Прачынаўся не раз*
*у абдымках нявернай Фартуны,*
*Але моўчкі сыходзіў*
*шторaніцы ўдалечыню,*
*Каб увечары зноўку,*
*напяўшы да дрыжыкаў струны*
*Мандаліны, працягваць*
*са светам ліхую гульню.*

*Кроў на дэцы, а твар —*
*пад надзейнаю маскаю грыму,*
*І абураным крыкам*
*няздараў яе не праціць,*
*Калі кепікі строф*
*з вуснаў расфарбанага міма,*
*Бы ў засмяглую глебу,*
*даждҗом жыватворным ляцяць.*

*Не аблашчаны ўладцамі —*
*не «піііт» жа, не гладыятар —*
*І за поясам ма́ю*
*хіба што кардонавы меч.*
*Залацісты прамень*
*высцілаецца, нібы фарватэр,*
*Для мяне, бо свабодна*
*ўсміхацца я здолеў пасмець.*

### Маўчанне

*Вечарэе. Пажухлымі знічкамі*
*Да ног сыплецца лісце бяроз.*
*З донцаў чарак вачмі безаблічнымі*
*Пазіраюць на нас кроплі кроз.*

*І напята цяпельца трапечацца,*
*Нібы ймкнецца ўзляцець над зямлёй,*
*На якой узялі шлюб навечна мы*
*Кожны сам са сваёй злыбядой.*

*Маладымі, натхнёна-пацешнымі*
*Падганялі няспешныя дні.*
*У пагоні за ўдачай сумеўшыся,*
*Не развяжам ніяк языкі.*

*І адзін аднаго добра ведаем,*
*Каб пускаць успаміны на дым*
*І пра блізкае, і пра занебнае —*
*Як у змове: ні слова аб тым.*

*Промняў сонечных цераспалосіцу,*
*Выпраўляючы ўдвох на спачын,*
*На двары надышоўшае восені*
*Пра калішняе лета маўчым...*

### Зліва

*Яна́ ўначы скрозь сон вярзлася*
*І хмарай затуліла дзень,*
*Пакуль нябёсаў не зраклася,*
*Кругамі лёгшы на вадзе,*
*На роўнядзі зямное Леты,*
*Разбіўшы люстра весляра, —*
*Нядобры знак па ўсіх прыкметах,*
*Ды п'е хаўтурная рака*
*Жывільны трунак з асалодай*
*Пад полыскамі бліскавіц.*
*Не мае шабаш злівы броду,*
*І несціханая звініць*
*Гамонка ручаёў увішных,*
*І парасткі кладуцца ніц,*
*І мне аб змытым ёй калішнім*
*Ужо ні кропля не баліць.*

***

*У нас надвор'е дрэнь, mon cher ami:*
*Дальбог, за гвалты крыўдзіцца прырода*
*І б'е па шчоках горкімі слязьмі*
*На змену варты выйшаўшых з намёта.*

*Іх па «сакрэтах» развядзе сяржант,*
*Гібець пакіне ў прэлых плашч-палатках.*
*Клубком скруціўшыся, куртаты Жан*
*І вухам не вядзе ўбок вінаватых.*

*Пястун узводны, франтавы клашар*
*Прыстаў вясной да гэткіх жа бадзягаў*
*І, рыхтык новапрыбылы, спярша*
*На гукі выбухаў ад страху звягаў.*

*Цяпер у вырвах плюхае вада,*
*Ліпучы бруд пануе ў нашых норах.*
*Наўкол зірнеш — прасвету не відаць,*
*Ні бліскавіцы, хмары — мокры порах.*

*Ды што пра фронт я?*
*Тут «comme à la guerre»:*
*«Les Fleurs du mal»[1] растуць*
*без перашкоды,*
*І дзень жыцця — у смерці напавер,*
*І дождж — як плач*
*пакрыўджанай прыроды.*

### Франтавая Гефсіманія[2]

*Ягічэ шыхтуе зычна ротны*
*Нас на зыходным рубяжы,*
*Але да стратаў незваротных*
*Ужо залічаныя мы.*

*Яшчэ з надзеяю чакаюць*
*Лістоў нявесты і бацькі,*
*Аднак скрозь глюгі начышчаюць,*
*Каб імі нас дзяўбсці, крукі.*

*Да крыку першага «Ў атаку!» —*
*Спірт і пчала на рукаве,*
*І нехта моліцца зацята,*
*Бо чара нас не абміне.*

*Нібыта ў Гефсіманскім садзе,*
*Пакет анёлам ад штабных,*
*Што мусім сёння па загадзе*
*У поўны рост пайсці пад крыж.*

*Для Збаўцы грэнадзёр не пара,*
*Ды ўсё ж, калі паразважаць, —*
*Смерць прымем гэтак жа ахвярна,*
*Каб іншым жыцці ўратаваць.*

*Шчэ рыльцы руляў кулямётных*
*На нас глядзяць у цішыні,*
*Але да стратаў незваротных*
*Ужо залічаныя мы.*

### Лебядзіны спеў

*У кожнага лебедзя свой*
*Спеў горкі, кароткі,*
*Які знічыць па-над зямлёй,*
*Адкуль куля кропкай.*

*На тле акварэлі рудой,*
*Дзе сонца на спадзе,*
*Гукне нотай толькі адной*
*У свету бязладдзе.*

*Самотна пральецца ў палі*
*Ахвярнаю стратай,*
*Бо ў вырай імкне белы клін,*
*А ён стрэлам сцяты.*



Фота hi-news

*Каб зграя адолела шлях,*
*Каб ёй павярнуцца,*
*Хтось мусіць спачыць далавах —*
*На дне каламуці.*

*У восені злосную золь,*
*У вечар туманны*
*З вышыняў абрынецца боль,*
*Крывёй таўраваны.*

*І, выбухнуўшы, пакрысе*
*У рэху пагасне.*
*У кожнага лебедзя спеў —*
*Імгненне ў бясчассі.*

### У начной цішы

*Я ні век твой, ні бег не парушу.*
*Хочаш гань мяне, хочаш — гані.*
*Жвавы вецер натомленай птушкай*
*Спіць, аціхнуўшы, у далані.*
*Весялун былы не зварухнецца*
*У палоне відзежаў начных*
*І гулліва крылом не кранецца*
*Валасоў і павекаў тваіх.*

### Пялёсткі

*Ад абеду дождж імжыць*
*Дробненькі ды порсткі.*
*Ноч даўно. Яна не спіць —*
*Мрояў тчэ пялёсткі.*

*Зніч ліхтарні пад вакном —*
*Бляск люмінісцэнтны,*
*І па шкле бягуць цурком*
*Кропляў дыяменты.*

*На дварэ туга і змрок,*
*Вецер злы галосіць*
*Ды шугае, нібы Цмок.*
*Час няўтульны — восень.*

*Знікне слоты каламуць,*
*І ў кружэнні лёгкім*
*Скрозь сняжынкі палятуць,*
*Як твае пялёсткі.*

*Сцюжы распачнуць сіпець,*
*Рэчку лёд спалоніць,*
*Ды пабуджаны мядзведзь*
*Непагадзь прагоніць.*

*Прыйдзе ветлая вясна,*
*Следам — лета ў красках.*
*Золь мінецца. Засынай,*
*Хай прысніцца казка.*

*Хай табе прысніцца прынц*
*І палац на ўзмор'і...*
*Ціха, струны, — яна спіць*
*У пялёстках мроі.*

### Супрацьстаянне

*Сіпяць пра беспрасвет даждҗы,*
*Нашэптвае пра немач спёка,*
*Адно вятрыска малады*
*Спявае ўголас з-пад аблокаў.*

*Яму спакой не да душы,*
*Здранцьвенню не дае ён веры —*
*Хвалюе спелыя жыты,*
*Кудлацячы над рэчкай вербы.*

*Нібы насельнік гор — мальфар,*[3]
*Надзелены гарэзнік дарам*
*Павевам свежым пляжыць сквар*
*І ўшчэнт ірваць навалу хмараў.*

*Таксама і паміж людзей:*
*Хтось рупіцца самааддана,*
*Каб дыхалася нам вальней,*
*А нехта трызніць ласкай пана.*

*Ані развязкі не відаць*
*Адвечнаму супрацьстаянню.*
*Ты ці гатовы адказаць —*
*Чый бок узяў у тым змаганні?*

### Ваўкалак

*Як сыду, не шукайце ў чы́стцы,*
*Не асудзяць д'ябал ці бог,*
*Бо, калі шчэ меў пух на пысцы,*
*Абярэг свой ад іх зяброг.*

*Бо шыбую зямной дарогай —*
*Непрыручаны ваўкалак, —*
*А ў глухі час поўні бязрогай*
*Пугач з пушчы мне дае знак,*

*Дзе крывёю насыціць пашчу,*
*Ажывіўшы напятасць жыл.*
*І п'ю прагна цёплую нашча,*
*Іклаў выскаліўшы нажы.*

*Хай палохаюцца ноздары,*
*Калі цішу ўзрэжа мой спеў*
*Па-над целам новай ахвяры,*
*Я ж — да золку мушу паспець*

*З палявання вярнуцца ў горад,*
*Каб хадзіць, не падцісну́ўшы хвост,*
*Між тых, што пра святасць гавораць,*
*Але чыняць аблудай хрост.*

*...Ашчэр, кудлы поўсці на рэбрах,*
*І вядомы вырак здаўна —*
*Што яны заб'юць мяне срэбрам,*
*Як калісці свайго Хрыста.*

***

*На дзень падоўжыўся мой век*
*І стрэлкі жорнамі імкліва*
*Світанкам узнавілі бег,*
*Каб будучынь пайшла на мліва.*

*І змушана за імі я*
*Услед пускаюся па крузе*
*Скрозь свет, дзе з сэнсаў мітусня*
*Фармуе плац-парад бязглуздзіц.*

*Уражвальны для грамадзян,*
*Спрадвеку да відовішч прагных,*
*Хоць золата кукард — падман,*
*Няма ні каліва ў ім праўды.*

*Але тлумачыць марна штось*
*Альбо рваць глотку, жылы, сэрца,*
*Бо бляскам зваблены натоўп*
*На голас твой не азірнецца.*

*Паўторыцца чарговы раз*
*Сюжэт, вядомы да дэталяў,*
*Пакуль бяжыць па крузе час*
*І стрэлкі круцяцца без жалю.*

*Няхай асветнікі вярзуць*
*Пра веліч розвітку законаў,*
*Яшчэ вядзе рэй каламуць*
*Старых заган і забабонаў.*

*Ёсць збаўным выйсцем адно бунт*
*Супроць нязменных дзён крыніцы —*
*У шчылінках паміж секунд,*
*Нібыта ў гушчары, згубіцца.*

*Ніхто не здолее вярнуць*
*Па тым на цыферблату роўнядзь,*
*Дзе стрэлкі жорнамі бягуць*
*І новы дзень на мліва зводзяць.*

---

[1] «Les Fleurs du mal» (франц.) — «Кветкі зла», зборнік вершаў Шарля Бадлера.
[2] Гефсіманія — мясцовасць, у садзе якой маліўся Ісус Хрыстос у ноч арышту.
[3] Мальфар — вядзьмак, чараўнік у гуцулаў.


Джордж ОРУЭЛ

# «Калі ўсе прымаюць хлусню, яна пасяляецца ў гісторыі і становіцца праўдай»

***119 гадоў таму нарадзіўся Эрык Артур Блэр, вядомы як Джордж Оруэл, аўтар галоўнай таталітарнай антыўтопіі, якая не страчвае актуальнасці ўжо больш за 70 гадоў. Неаднойчы ішлі размовы пра яе забарону ў кніжных крамах і бібліятэках...***

***Пісьменнік нарадзіўся ў Бенгаліі. Скончыўшы прэстыжную школу ў Ітане, ён з 1922 па 1927 год служыў у Індыйскай імперскай паліцыі ў Бірме. Затым спрабаваў зарабляць літаратурнай працай, бадзяжнічаў, пісаў кнігі, артыкулы і рэцэнзіі, жыў у працоўным раёне Парыжа, збіраў хмель у графстве Кент, выкладаў у школе, працаваў у лонданскай букіністычнай краме, ваяваў у Іспаніі на баку рэспубліканцаў, быў паранены. Затым жыў у вёсцы пад Лонданам. Падчас Другой сусветнай вайны працаваў на радыё BBC, быў ваенным карэспандэнтам у Францыі, Германіі і Аўстрыі, а затым, заўдавеўшы, жыў на востраве Джура ля ўзбярэжжа Шатландыі, дзе пісаў раман «1984». У студзені 1950 года Дордж Оруэл памёр ад сухотаў...***

***Прапануем нізку перакладаў ягоных цытатаў — з дзённікаў, лістоў, артыкулаў. Гэта разважанні аб тым, чым насамрэч страшны таталітарны рэжым, гэта думкі пра хлусню і творчасць.***

Не магу сказаць, у якім годзе я ўпершыню ясна зразумеў, што насоўваецца цяперашняя вайна. Пасля 1936 года гэта было зразумела ўжо ўсім, акрамя ідыётаў. На працягу некалькіх гадоў будучая вайна была для мяне кашмарам, і я нават пісаў брашуры і прамаўляў прамовы супраць яе. Але ў ноч напярэдадні таго, як аб'явілі аб заключэнні мірнага руска-нямецкага пакта, мне прыснілася, што вайна пачалася. Не ведаю, як вытлумачылі б мой сон фрэйдысты, але гэта быў адзін з тых сноў, якія часам адкрываюць табе сапраўдны стан тваіх пачуццяў. Ён растлумачыў мне, па-першае, што я проста зведаю палёгку, калі пачнецца даўно і з жахам чаканая вайна, і, па-другое, што я ў душы патрыёт, не буду сабатаваць ці дзейнічаць супраць сваіх, буду падтрымліваць вайну і, калі атрымаецца, ваяваць. Я сышоў уніз і прачытаў у газеце паведамленне аб прылёце Рыбентропа ў Маскву.

Да прыбыцця Рыбентропа маскоўскі аэрапорт быў упрыгожаны свастыкамі. Газета «Манчэстэр гардыян» дадае, што яны былі загароджаныя шырмамі, каб астатняя Масква іх не бачыла.

***Дзённік падзей, якія вядуць да вайны. 1939 г.***

Учора ўвечары слухаў прамову893слі (Сэр Освальд Мослі (1896—1980) у 1932 годзе заснаваў Брытанскі саюз фашыстаў. — *Рэд.*)... <...> Мослі казаў паўтары гадзіны і, да майго засмучэння, здаецца, захапіў большасць слухачоў. Спачатку яму шыкалі, але ў канцы гучна апладыравалі. Некалькі чалавек, якія паспрабавалі ўставіць слова, былі выкінуты з зусім непатрэбнай жорсткасцю. <...> Мослі вельмі добры аратар. Гаворка яго — звычайная траскучая бязглуздзіца: бяспошлінны гандаль усярэдзіне Імперыі, далоў габрэяў і замежнікаў, падвышэнне зарплаты, скарачэнне працоўнага дня і г. д., і г. д. Пасля шыкання спачатку ён працоўную (па перавазе) аўдыторыю з лёгкасцю задурыў, выступаючы як бы з сацыялістычных пазіцый і вінавацячы ўрады, якія змянялі адзін аднаго, у здрадзе інтарэсам працоўнага класа. Віну за ўсё ён ускладаў на таямнічыя міжнародныя хеўры габрэяў...

Камуністычны мітынг на Маркет-плэйс расчараваў. Бяда ўсіх камуністычных выступоўцаў у тым, што кажуць яны не даходліва, а жахліва доўгімі фразамі, з усялякімі «ныглядзячы», «безаднасна», «нават прымаючы да ўвагі» і г. д. <...> Мяркую, што ім даюць загадзя прыгатаваныя прамовы, і яны вывучваюць іх на памяць.

Галоўным чынам здольнасць такіх людзей, як мы, лепш разумець сітуацыю, чым так званыя эксперты, заключаецца не ў прадказанні канкрэтных падзей, а ва ўменні зразумець, у якім свеце мы жывем. <...> З 1934-га я ведаў, што насоўваецца вайна паміж Англіяй і Нямеччынай, а з 1936-га я ведаў гэта з поўнай упэўненасцю. <...> Таксама і такія жахі, як расійскія чысткі, ніколі мяне не здзівілі, бо я заўсёды адчуваў, што гэта — не менавіта гэта, але нешта падобнае — уласціва бальшавіцкаму кіраўніцтву.

***Дзённік ваеннага часу. 1940 г.***

Што да кампаній нянавісці, якія няспынна распальваюцца таталітарнымі рэжымамі, яны цалкам рэальныя, пакуль доўжацца, але кожны раз прадыктаваныя патрэбамі моманту. Габрэі, палякі, трацкісты, ангельцы, французы, чэхі, дэмакраты, фашысты, марксісты — хто заўгодна можа апынуцца Ворагам Таварыства Нумар Адзін. Нянавісць можна павярнуць у любым кірунку па першым знаку, як агонь паяльнай лямпы.

***Рэцэнзія на кнігу Франца Баркенау «Таталітарны вораг», 1940 г.***

Літаратура, якая мае хоць нейкую каштоўнасць, магчыма толькі пры ўмове, калі той, хто піша, адчувае праўдзівасць таго, што ён піша; калі гэтага няма, знікне творчы інстынкт. Увесь назапашаны вопыт сведчыць, што рэзкія эмацыйныя пераацэнкі, якіх таталітарызм патрабуе ад сваіх прыхільнікаў, псіхалагічна немагчымыя, і вось перш за ўсё з гэтай прычыны я мяркую, што канец літаратуры, якой мы яе ведалі, непазбежны, калі таталітарызм усталюецца паўсюль у свеце.

Абвясціўшы сябе бязгрэшнай, таталітарная дзяржава разам з тым адкідае само паняцце аб'ектыўнай ісціны. Вось відавочны, самы просты прыклад: да верасня 1939 года кожнаму немцу ставілася ў абавязак выяўляць да рускага бальшавізму агіду і жах, пасля верасня 1939 года — захапленне і гарачае спачуванне. Калі паміж Расіяй і Нямеччынай пачнецца вайна, а гэта вельмі верагодна ў найбліжэйшыя некалькі гадоў, з непазбежнасцю зноў адбудзецца крутая перамена. Пачуцці немца, яго любоў, яго нянавісць пры неабходнасці павінны імгненна ператварацца ў сваю супрацьлегласць.

Кантроль над думкай мае мэты не толькі забаронныя, але і канструктыўныя. Не проста забараняецца выказваць — нават дапускаць — пэўныя думкі, але дыктуецца, што менавіта належыць думаць; ствараецца ідэалогія, якая павінна быць прынята асобай, намагаюцца кіраваць яе эмоцыямі і навязваць ёй вобраз паводзін. Яна ізалюецца, наколькі можна, ад навакольнага свету, каб замкнуць яе ў штучным асяроддзі, пазбавіўшы магчымасці супастаўленняў.

***Літаратура і таталітарызм, 1941 г.***

Любая прапаганда — хлусня, нават калі кажаш праўду. Але гэта не так ужо важна, абы ведаць, што ты робіш і чаму.

***Дзённік, 1942 г.***

Думка любога — «пракурорская», кожны толькі прыводзіць свае довады, наўмысна заціскаючы меркаванне апанента і, больш за тое, з поўнай неадчувальнасцю да любых пакут, акрамя ўласнага і сваіх сяброў. Індыйскі нацыяналіст тоне ў жалю да сябе і нянавісці да Брытаніі і зусім абыякавы да няшчасцяў Кітая; ангельскі пацыфіст даводзіць сябе да ашалення, кажучы аб канцлагерах на востраве Мэн, і забывае аб такіх у Нямеччыне і г. д., і г. д. Гэта заўважаеш у дачыненні да людзей, з якімі не згодзен, такіх, як фашысты ці пацыфісты, але на самой справе ўсе аднолькавыя, прынамсі ўсе, у каго ёсць пэўнае меркаванне.

***Другі дзённік ваеннага часу. 1942 г.***

Найвялікшая памылка ўяўляць чалавека аўтаномным індывідам. Тая таемная свабода, ад якой вы нібыта можаце атрымліваць асалоду пры дэспатычным урадзе, — глупства, бо вашыя думкі ніколі не належаць вам цалкам.

Па-сапраўднаму палохае ў таталітарызме не тое, што ён здзяйсняе «зверствы», а тое, што ён нападае на канцэпцыю аб'ектыўнай ісціны і сцвярджае, што кантралюе як мінулае, так і будучыню.

Філасофы, пісьменнікі, мастакі і нават навукоўцы маюць патрэбу не толькі ў падтрымцы і аўдыторыі, ім патрэбная пастаянная стымуляцыя з боку іншых людзей. Амаль немагчыма думаць без размовы. Адбярыце свабоду слова — і вычарпаюцца творчыя здольнасці.

***Як мне заўгодна, 1944 г.***

Інтэлектуалы больш таталітарныя па сваіх поглядах, чым простыя людзі. Ангельская інтэлігенцыя ў цэлым выступіла супраць Гітлера, але затое прыняла Сталіна. Большасць з іх абсалютна гатова да метадаў дыктатуры, да тайнай паліцыі, да сістэматычнай фальсіфікацыі гісторыі і г. д., пры ўмове, што гэта будуць рабіць «нашы».

***Ліст Ноэлю Ўілмэту, 1944 г.***

У кожны момант існуе «правільны» пункт гледжання, сукупнасць поглядаў, пра якую мяркуецца, што ўсе прыстойныя людзі згаджаюцца з ёй, не разважаючы. Рэч нават не ў тым, што тое ці іншае меркаванне выказваць забараняецца: выказваць яго проста «не прынята», гэтак жа як у віктарыянскія часы «не прынята» было ў прысутнасці дамы згадваць у размове штаны.

У выніку прапаганды таталітарных дактрын губляецца інстынкт, з дапамогай якога вольныя людзі адрозніваюць, у чым хаваецца небяспека, а ў чым не.

***З прадмовы да аповесці «Скотны двор», 1945 г.***

...прыхільнасць любой палітычнай дактрыне з яе дысцыплінуючым уздзеяннем, відаць, супярэчыць сутнасці пісьменніцкага служэння. Гэта адносіцца і да такіх дактрын, як пацыфізм ці індывідуалізм, хаця яны прэтэндуюць знаходзіцца па-за штодзённай палітычнай барацьбой. Сапраўды, усе словы, якія канчаюцца на «ізм», прыносяць з сабой душок прапаганды. <...>

Творчасць, калі яна валодае хоць нейкай каштоўнасцю, заўсёды будзе вынікам намаганняў той больш разумнай істоты, якая застаецца ўбаку, сведчыць аб тым, што адбываецца, трымаючыся ісціны, прызнае неабходнасць таго, што здзяйсняецца, аднак адмаўляецца падманваць наконт сапраўднай прыроды падзей.

***Пісьменнікі і Левіяфан, 1946 г.***

Пагрозы свабодзе слова, пісання і дзеяння часта нязначныя паасобку, але маюць назапашвальны эфект і, калі іх не спыніць, прыводзяць да агульнай непавагі да правоў грамадзян.

***Камітэт абароны свабоды, 1948 г.***

Дыктатуру засноўваюць не дзеля таго, каб ахоўваць рэвалюцыю; рэвалюцыю здзяйсняюць дзеля таго, каб усталяваць дыктатуру. Мэта рэпрэсій — рэпрэсіі. Мэта катавання — катаванне. Мэта ўлады — улада.

Калі ўсе прымаюць хлусню, навязаную партыяй, калі ва ўсіх дакументах адна і тая ж песня, тады гэтая хлусня пасяляецца ў гісторыі і становіцца праўдай.

***З рамана «1984», 1949 г.***



